# ПРЭЗІДЭНТ УКРАІНЫ ПРЫБЫЎ У МІНСК

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

прэм'ер-міністр Сяргей Лінг і іншыя афіцыйныя асобы. Кіраўнікі сумеснай беларуска-ўкраінскай камісіі расказалі аб праблемах у сферы гандлёва-эканамічных адносінаў паміж дзвюма дзяржавамі. Галоўная мэта праведзеных перагавораў — гэта пошук магчымасцяў для пашырэння гандлю і павелічэння тавараабароту.

Пасля завяршэння перагавораў у пашыраным саставе ў рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы быў падпісаны дагавор аб 10-гадовай праграме супрацоўніцтва. Ён названы самым галоўным дакументам, які вызначыць узаемаадносіны нашых краін па розных напрамках.

Позна вечарам Леанід Кучма правёў перагаворы з прэм'ер-міністрам рэспублікі Сяргеем Лінгам, якія адбыліся ў рэзідэнцыі «Заслаўе-1». Бакі абмеркавалі пытанні, што датычаць беларуска-ўкраінскага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва.

У суботу, 12 снежня, прэзідэнт Украіны адправіцца ў Брэст. Сваё знаходжанне ў горадзе над Бугам Леанід Кучма пачне з наведвання мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць — герой». Затым ён прыбудзе ў Брэсцкі аблвыканкам, дзе сустрэнецца з абласным кіраўніцтвам, а таксама прадстаўнікамі еўрарэгіёну «Буг» і свабоднай эканамічнай зоны «Брэст». У гэты ж дзень дэлегацыя суседняй дзяржавы на чале з Леанідам Кучмам вылеціць з Брэста ў Кіеў.

**Вадзім МІЛІЦЫН,**
**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 602

### Аб ажыццяўленні ведамаснага кантролю на прадпрыемствах і ў арганізацыях, якія ўваходзяць у састаў Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці

У мэтах павышэння эфектыўнасці ведамаснага кантролю на прадпрыемствах і ў арганізацыях, якія ўваходзяць у састаў Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці, **пастанаўляю:**

1. Дазволіць Беларускаму дзяржаўнаму канцэрну па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці стварыць у парадку эксперыменту ў сваім саставе на тэрмін да 1 студзеня 2004 г. дзяржаўнае прадпрыемства «Служба ведамаснага кантролю Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці» (далей — Служба ведамаснага кантролю).

2. Устанавіць, што:

2.1. Служба ведамаснага кантролю:

праводзіць праверкі эканамічнай дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый, якія ўваходзяць у састаў Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці (далей — прадпрыемствы і арганізацыі канцэрна), у мэтах павышэння яе эфектыўнасці, забеспячэння выканання гэтымі прадпрыемствамі і арганізацыямі заканадаўства Рэспублікі Беларусь, абароны інтарэсаў іх уласнікаў, а таксама ажыццяўляе інфармацыйнае абслугоўванне і кансультаванне;

мае права атрымліваць ад дзяржаўных і іншых арганізацый (уключаючы Нацыянальны банк і дзяржаўныя падатковыя органы) інфармацыю, неабходную для выканання ўскладзеных на яе функцый;

фінансуецца за кошт адлічэнняў, праводзімых прадпрыемствамі і арганізацыямі канцэрна ў адпаведнасці з Палажэннем аб Службе ведамаснага кантролю, якія адносяцца на сабекошт прадукцыі (работ, паслуг) адпаведных прадпрыемстваў і арганізацый і прыраўноўваюцца да матэрыяльных затрат;

2.2. у выпадку прыняцця Беларускім дзяржаўным канцэрнам па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці мераў па парушэннях заканадаўства Рэспублікі Беларусь, выяўленых Службай ведамаснага кантролю ў ходзе ажыццяўлення праверак дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый канцэрна, адпаведныя прадпрыемствы і арганізацыі не падлягаюць прыцягненню да эканамічнай адказнасці за гэтыя парушэнні, за выключэннем выпадкаў парушэння прававых актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама несвоечасовага ўнясення плацяжоў у бюджэт і дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды.

За парушэнні, выяўленыя ўпаўнаважанымі дзяржаўнымі органамі да правядзення названых праверак, прадпрыемствы і арганізацыі канцэрна прыцягваюцца да адказнасці ва ўстаноўленым парадку;

2.3. прадпрыемствы і арганізацыі канцэрна на час правядзення эксперыменту вызваляюцца ад абавязковых аўдытарскіх праверак, якія ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у шасцімесячны тэрмін:

забяспечыць прывядзенне заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Указам;

прыняць іншыя меры па выкананню гэтага Указа.

4. Беларускаму дзяржаўнаму канцэрну па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці:

зацвердзіць па ўзгадненню з Камітэтам дзяржаўнага кантролю Палажэнне аб Службе ведамаснага кантролю;

штоквартальна інфармаваць Камітэт дзяржаўнага кантролю аб выніках дзейнасці Службы ведамаснага кантролю.

5. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт**
**Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**
10 снежня 1998 г. г.Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 601

### Аб унясенні дапаўненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 чэрвеня 1997 г. № 311

1. Унесці ў пункт 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 чэрвеня 1997 г. № 311 «Аб удасканаленні парадку абавязковага продажу замежнай валюты» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 16, арт. 579) наступныя дапаўненні:

дапоўніць падпункт 2.3 абзацам наступнага зместу: «на рахункі беларускіх юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў для пералічэння ва ўстаноўленым парадку ў рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты, дзяржаўныя бюджэтныя і пазабюджэтныя фонды»;

дапоўніць пункт падпунктам 2.6 наступнага зместу:

«2.6. якая паступае на рахункі беларускіх юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў у перыяд да 1 красавіка 1999 г. у выглядзе авансавых плацяжоў (перадаплаты) у адпаведнасці з умовамі заключаных знешнеэканамічных дагавораў і накіроўваецца імі на працягу 20 дзён на закупку сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых вырабаў для далейшай вытворчасці экспартнай прадукцыі. Пры паступленні замежнай валюты па дагавору ў поўным аб'ёме, у тым ліку ў выглядзе авансавага плацяжу, яна падлягае абавязковаму продажу на Міжбанкаўскай валютнай біржы ў парадку і памеры, устаноўленых гэтым Указам.

Адказнасць за поўнае і своечасовае ажыццяўленне абавязковага продажу замежнай валюты ў адпаведнасці з гэтым падпунктам ускладаецца на юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў».

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнаму банку прыняць меры, неабходныя для рэалізацыі гэтага Указа.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт**
**Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**
10 снежня 1998 г. г.Мінск.

*«ЗВЯЗДА»-99*

## ПАДПІШЫЦЕСЯ СЁННЯ!

Гэтыя словы мы адрасуем прыхільнікам нашай газеты, якія не паспелі ці не змаглі выпісаць «Звязду» раней. Напамінаем, што **падпіска заканчваецца** зусім хутка — **15 снежня.** Паспяшайцеся набыць добрага сябра і шчырага дарадцу — газету «Звязда» для надта ж ужо доўгіх зімовых вечароў, якія з яе ўдзелам будуць больш цёплымі і цікавымі. Падумайце пра гэта менавіта сёння ў суботу, у выхадны дзень.

***Кошт падпіскі на 1 месяц:***

**для індывідуальных падпісчыкаў — 48 тысяч рублёў (індэкс 63850);**

**для арганізацый — 150 тысяч рублёў (індэкс 63239);**

**на 3 месяцы — 144 тысячы і 450 тыс. рублёў адпаведна.**

## БЕЛАРУСЬ МОЖА АТРЫМАЦЬ КРЭДЫТ МВФ

**Перспектывы супрацоўніцтва Міжнароднага валютнага фонду з нашай рэспублікай былі абмеркаваны 10 снежня ў час сустрэчы прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Лінга з місіяй гэтай міжнароднай арганізацыі на чале з яе кіраўніком Томасам А. Вульфам.**

У слове ў адказ Томас А. Вульф падзякаваў за аказаны прыём на беларускай зямлі. Паводле яго слоў, місія і зацікаўленыя ведамствы рэспублікі прыйшлі да згоды па многіх пытаннях, якія абмяркоўваюцца ў ходзе перагавораў.

Як стала вядома БЕЛТА, у час сустрэч прадстаўнікоў місіі МВФ у Нацбанку і іншых ведамствах краіны абмяркоўвалася пытанне аб магчымасці прадастаўлення Беларусі надзвычайнага крэдыту ў суме 100 мільёнаў долараў ЗША для ліквідацыі вынікаў фінансавага крызісу ў Расіі, стыхійных бедстваў і на іншыя мэты. Яго выдзяленне стане рэальнасцю ў выпадку прыняцця місіяй станоўчага рашэння пасля заканчэння ўсіх перагавораў у рэспубліцы.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ РАЗГЛЕДЗЕЎ КАДРАВЫЯ ПЫТАННІ

Як паведамілі БЕЛТА з прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 10 снежня 1998 г. кіраўнік дзяржавы А. Р. Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні і даў згоду на назначэнне:

**Крывянкова** Аляксандра Афанасьевіча — старшынёй Гарацкага райвыканкама;

**Шнітоўскага** Івана Мечыслававіча — старшынёй Вілейскага райвыканкама;

**Шчацько** Віктара Уладзіміравіча — старшынёй Асіповіцкага райвыканкама;

**Бяльковіча** Віктара Фёдаравіча — старшынёй Жлобінскага райвыканкама;

**Ляцягі** Уладзіміра Васільевіча — старшынёй Івацэвіцкага райвыканкама;

**Юхімука** Міхаіла Іванавіча — кіраўніком адміністрацыі Ленінскага раёна г. Брэста.

**БЕЛТА.**

## ГРАМАДЗЯНЕ КАЗАХСТАНА МОГУЦЬ ПРАГАЛАСАВАЦЬ У ПАСОЛЬСТВЕ Ў МІНСКУ

Пасольства Рэспублікі Казахстан мае гонар паведаміць грамадзянам Рэспублікі Казахстан, што ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Казахстан «Аб выбарах» і на падставе Пастановы парламента РК 10 студзеня 1999 года ў Рэспубліцы Казахстан адбудуцца выбары Прэзідэнта Рэспублікі Казахстан. Таксама маем гонар паведаміць, што 30 лістапада г.г. завяршылася афіцыйная рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты РК. Цэнтральнай выбарчай камісіяй РК зарэгістраваны:

НАЗАРБАЕЎ Нурсултан Абішавіч — ад грамадскага аб'яднання «Арганізацыя ветэранаў Рэспублікі Казахстан»,

АБДЫЛЬДЫН Серыкбалсын Абдыльдаевіч — ад Камуністычнай партыі Казахстана,

ГАБАСАЎ Энгельс Габасавіч — самавылучэнне,

КАСЫМАЎ Гані Есенгельдынавіч — самавылучэнне.

Пры пасольстве Рэспублікі Казахстан утворана ўчастковая камісія (№ 119) па забеспячэнню і правядзенню выбарнай кампаніі сярод казахскіх грамадзян у Рэспубліцы Беларусь. Выбары адбудуцца ў канферэнц-зале пасольства па адрасу: г.Мінск, вул. Куйбашава,12. Галасаванне пачнецца ў 7.00 раніцы і завершыцца ў 20.00 гадзін вечара.

Даведкі па тэлефоне 284-48-10.

**Пасольства Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь.**

## БЕЛАРУСЬ І ЮГАСЛАВІЯ РАЗАМ І Ў ГОРЫ, І Ў РАДАСЦІ

**Дні культуры Югаславіі ў Беларусі сталі яшчэ адным сведчаннем імкнення дзвюх краін да цеснага супрацоўніцтва. Іх урачыстае адкрыццё адбылося ў Канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі.**

Спачатку тут прагучалі дзяржаўныя гімны Югаславіі і Беларусі ў выкананні Бялградскага сімфанічнага аркестра. А затым усіх прысутных у зале вітаў намеснік прэм'ер-міністра СРЮ Даніла Вуксанавіч, які ўзначаліў афіцыйную дэлегацыю гэтай рэспублікі.

Вітаючы югаслаўскіх сяброў, віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Замяталін адзначыў, што такія культурныя кантакты вельмі важныя. І ўжо наступнай вясной у Югаславіі пройдуць Дні беларускай культуры.

На працягу тыдня югаслаўскія артысты выступяць у Гродзенскай, Магілёўскай, Гомельскай і Мінскай абласцях, адбудзецца шэраг сустрэч з пісьменнікамі, мастакамі, кінематаграфістамі гэтай краіны. Закрыюцца Дні культуры Югаславіі ў Беларусі гала-канцэртам, які пройдзе 16 снежня ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода.

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**

# АФІЦЫЙНА

## ПРЭЗІДЭНТ ЗАСЛУХАЎ СПРАВАЗДАЧЫ КІРАЎНІКОЎ ТРОХ АБЛАСЦЕЙ І СТАЛІЦЫ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 11 снежня заслухаў справаздачы кіраўнікоў Мінскага, Брэсцкага і Гродзенскага аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама аб стане эканомікі, рабоце аграпрамысловага комплексу і насычэнні спажывецкага рынку ў гэтых рэгіёнах.**

Як паведаміў БЕЛТА кіраўнік прэс-службы кіраўніка дзяржавы, старшыня Мінскага аблвыканкама Мікалай Дамашкевіч далажыў прэзідэнту, што ў Мінскай вобласці за апошні тыдзень спынена зніжэнне надояў малака. Яго вытворчасць і пастаўкі на перапрацоўчыя прадпрыемствы павялічыліся на 1—4 працэнты. Рэалізацыя жывёлы і птушкі на забой павялічылася на трэць (плюс 28 працэнтаў), мясакамбінатам прадукцыі прададзена на 71 працэнт больш, чым на папярэднім тыдні. Мікалай Дамашкевіч расказаў аб канкрэтных эканамічных, структурных і арганізацыйных мерах, якія прымаюцца кіраўнікамі вобласці, гарадоў і раёнаў для выканання пастаўленай кіраўніком дзяржавы задачы аб паляпшэнні харчовага забеспячэння Мінска і іншых гарадоў вобласці.

Аляксандр Лукашэнка адобрыў першыя практычныя справы і тактычныя меры, якія прымаюцца старшынёй аблвыканкама Мікалаем Дамашкевічам. Пры гэтым прэзідэнт звярнуў асаблівую ўвагу на неабходнасць паскарэння далейшага ўдасканалення сістэмы аплаты працы работнікаў жывёлагадоўлі, а да пачатку веснавых палявых работ — і іншых катэгорый сельскіх працаўнікоў.

Прэзідэнт падтрымаў работу аблвыканкама па навядзенню парадку і дысцыпліны, уважлівых адносінах да патрэб і запатрабаванняў людзей.

У адпаведнасці з даручэннем прэзідэнта краіны ў аблвыканкаме адбылася сустрэча Мікалая Дамашкевіча і старшыні Мінскага гарвыканкама Уладзіміра Ярмошына. Прыняты канкрэтныя рашэнні аб эканамічнай і фінансавай падтрымцы сельгасвытворцаў прадукцыі для сталіцы, выпрацавана стратэгія ўзаемаадносінаў вобласці і горада, якая прадугледжвае ў далейшым паляпшэнне забеспячэння сталіцы прадуктамі харчавання і таварамі народнага спажывання.

Старшыня Мінгарвыканкама Уладзімір Ярмошын далажыў прэзідэнту аб стане гарадскога спажывецкага рынку. Разам са станоўчымі зрухамі ў забеспячэнні жыхароў сталіцы хлебам, хлебабулачнымі вырабамі, малаком, кефірам захоўваецца напружанае становішча з забеспячэннем насельніцтва мясам, каўбаснымі вырабамі, яйкамі. Не дасягнуты запланаваныя аб'ёмы паступлення мяса на мяса- і холадакамбінаты горада.

Прэзідэнтам дадзены ўказанні абласцям рэспублікі павялічыць пастаўкі мяса і мясапрадуктаў. Кіраўнік дзяржавы абавязаў Мінгарвыканкам палепшыць работу з прадпрыемствамі аграпрамысловага комплексу па дэцэнтралізаваных закупках прадукцыі жывёлагадоўлі. Прэзідэнт даручыў Мінгарвыканкаму і ўраду разгледзець пытанне аб забеспячэнні насельніцтва яйкамі і прыняць неабходныя меры для павелічэння іх паставак у пераднавагодні перыяд, выкарыстоўваючы для гэтых мэтаў стабілізацыйны фонд горада. Кіраўнік дзяржавы падтрымаў работу гарвыканкама па павелічэнню паставак прадуктаў харчавання прамысловымі прадпрыемствамі для сваіх работнікаў праз сталы заказаў, сталовыя, магазіны.

Былі абмеркаваны таксама пытанні, звязаныя з пераднавагоднім гандлем. Прэзідэнт даў указанне звярнуць асаблівую ўвагу на забеспячэнне маламаёмных слаёў насельніцтва, дзяцей. Рэкамендавана правесці кірмашы, выстаўкі-продажы тавараў. Прэзідэнту далажана аб павелічэнні паставак тавараў прамысловай групы ў гандлёвую сетку горада.

Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз падкрэсліў, што не можа быць гаворкі аб абвальным павышэнні цэн.

Кіраўнік дзяржавы заслухаў таксама даклады старшынь Гродзенскага і Брэсцкага аблвыканкамаў Аляксандра Дубко і Уладзіміра Заламая аб эканамічнай сітуацыі ў гэтых абласцях. Прэзідэнт прапанаваў ім разгледзець магчымыя меры па аказанню дапамогі Мінску дадатковымі пастаўкамі прадукцыі для больш поўнага насычэння спажывецкага рынку сталіцы.

Па выніках справаздач прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка даручыў прэм'ер-міністру Сяргею Лінгу прыняць меры па стварэнню неабходных рэзерваў для задавальнення павышанага попыту насельніцтва на харчовыя і прамысловыя тавары ў перыяд пераднавагодняга гандлю. Ён таксама аддаў распараджэнне аб забароне на несанкцыяніраваны вываз тавараў павышанага попыту за межы рэспублікі, уключаючы прымяненне адпаведных санкцый да парушальнікаў.

**БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ВЫБАРЧЫ ЗАКОН ЗНОЎ АДХІЛЕНЫ

**Трэці раз на гэтай сесіі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу бяруцца за праект закона «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў». І калі некалькі дзён таму ён, хоць і з вялікімі цяжкасцямі, але быў адобраны ў першым чытанні, то ўчора спроба прыняць дакумент у другім чытанні аказалася няўдалай: праект закона зноў адхілены і накіраваны на дапрацоўку ў камісію.**

Ужо першыя хвіліны абмеркавання засведчылі, што спрэчкі будуць прынцыповыя. Мікалай Лазавік, намеснік старшыні Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту, паведаміў, што ў працэсе падрыхтоўкі да другога чытання ў 36 артыкулаў законапраекта была ўнесена 71 папраўка. Усе дапаўненні ўзгадняліся з прэзідэнтам. Але складанасць сітуацыі была ў тым, што, акрамя гэтых паправак, некалькі дапаўненняў камісія не адобрыла, а іх ініцыятары працягвалі настойваць на прыняцці сваіх прапаноў. Гэта і стала прадметам асноўных спрэчак.

Паартыкульнае галасаванне «забуксавала» ўжо на дзесятым артыкуле, які вызначае кола суб'ектаў, што маюць права вылучэння кандыдатаў у дэпутаты. Паводле праекта закона, ім надзелены палітычныя партыі, працоўныя калектывы, а таксама грамадзяне, якія могуць зрабіць гэта шляхам збору подпісаў. Дэпутаты Жушма і Анікееў прапанавалі дапоўніць спіс раённымі і гарадскімі арганізацыямі ветэранаў. Аднак у выніку процістаяння аргументаў перамог бок ініцыятараў закона: папраўкі двух дэпутатаў былі адхілены. Такі ж лёс напаткаў іншыя прапановы, якія не падтрымала камісія, што прадстаўляла законапраект.

Непасрэднай прычынай адхілення закона стала тупіковая сітуацыя, у якую трапілі дэпутаты падчас абмеркавання артыкула 69. Ён і да гэтага быў адным з самых «складаных». Згодна з праектам закона, у ім сцвярджаецца, што выбары лічацца адбыўшыміся ў тым выпадку, калі ў іх узялі ўдзел больш за палову выбаршчыкаў. Але ўчора значная частка дэпутацкага корпуса папярэдняму лічыла, што такая норма зробіць выбары бясконцымі, як гэта не так даўно ўжо было. Таму парламентарыі прапанавалі знізіць лічбу з 50 да 25 працэнтаў выбаршчыкаў. Хаця б падчас другога тура галасавання. Аднак распрацоўшчыкі законапраекта з Адміністрацыі Прэзідэнта, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына наадрэз адмовіліся пагаджацца з такой прапановай, заявіўшы, што супраць падобнага змянення выступае Аляксандр Лукашэнка.

На гэта раз у спрэчцы не перамог ніводзін бок: ні афіцыйны праект артыкула, ні папраўка групы дэпутатаў не набралі патрэбнай колькасці галасоў. У выніку далейшае галасаванне адносна палажэнняў выбарчага законапраекта было прызнана немэтазгодным. Такім чынам, палата дэпутатаў вернецца да дакумента на наступным тыдні, калі, верагодна, будзе знойдзены кансенсус.

Між тым, наступны тыдзень будзе апошнім у рабоце пятай сесіі парламента. Згодна з папярэднім графікам, заключнае пасяджэнне Палаты прадстаўнікоў адбудзецца 19 снежня, а Савета Рэспублікі — днём раней. Аднак, нягледзячы на гэта, 10 снежня дэпутаты Палаты прадстаўнікоў дадаткова ўключылі ў парадак дня сесіі яшчэ чатыры пытанні, сярод якіх — праект Закона «Аб прамыслова-фінансавых групах» і папраўкі ў Закон «Аб памерах абавязковых страхавых узносаў у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь».

У чацвер былі прыняты змяненні і дапаўненні ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія прадугледжваюць адказнасць за парушэнне парадку вядзення бухгалтарскага ўліку і вываз тэхналагічнага абсталявання. Унесены таксама ўдакладненні ў Закон «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні». Іх сутнасць заключаецца ў тым, што цяпер кіраўнікі пасялковых і сельскіх Саветаў дэпутатаў змогуць займаць сваю пасаду больш як два тэрміны запар.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**







**ДА КАЛЯД І НОВАГА ГОДА РУКОЮ ПАДАЦЬ, а дзе здабыць неабходныя прадукты, каб святочны стол быў багатым, а бяседа за ім цікавай і вясёлай. Сёлета жыхарам Навагрудка і Баранавіч будзе нялёгка вырашыць гэтую праблему.**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## ЧЫТАЕМ МАЛА ГАЗЕТ. А БУДЗЕМ ЯШЧЭ МЕНШ...

**У пятніцу раніцай усіх прыхільнікаў «Комсомольской правды»-«таўстушкі» «Комсомольской правды» чакаў сапраўдны ўдар: у кіёсках «Белсаюздруку» адзін нумар гэтай газеты каштаваў ужо 40 тысяч рублёў замест 25 ранейшых.**

Як удалося даведацца нам у аддзеле рэалізацыі Рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта», ад ЗАТ «БелКП-ПРЭС» да іх паступіла пісьмовае паведамленне аб тым, што з 11 снежня штодзённы нумар «Комсомольской правды» будзе каштаваць на тэрыторыі Беларусі 18 тыс. рублёў, а пятнічная «таўстушка» — 40 тысяч. Прычынай жа прыняцця такой непапулярнай меры самі выдаўцы называюць падаражанне паперы і паліграфічных паслуг. Больш таго, хутчэй за ўсё цяперашні скачок цаны на газету не стане апошнім, і ўжо ў студзені за задавальненне пагартаць «таўстушку» яе паклоннікам прыйдзецца выкладаць 50—60 тысяч. У сувязі з гэтым узнікае пытанне, ці не ператворыцца такім чынам «народная» газета ў элітарнае чытво?

Да 20 тысяч рублёў узнімецца з 16 снежня кошт беларускай газеты «Антена». А вось адсутнасць у кіёсках «Белпошты» газеты «Аргументы и факты» ў аб'яднанні растлумачылі сваёй запазычанасцю перад яе выдаўцамі. Да канца снежня ў іх «Аргументы и факты» немагчыма будзе знайсці. А мы ж былі калісьці самай чытаючай нацыяй у свеце...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## СПЕЦКУРС «УДАРЫЦЬ» ПА САБЕКОШТУ ПРАДУКЦЫІ...

**Нацыянальны банк у папярэднія дні ацэньваў акрамя афіцыйнага курса і спецыяльны курс замежных валют. Долар, згодна з новым вызначэннем, складаў ужо 220 тысяч рублёў. Праўда, нягледзячы на тое, што нaваўвядзенне «прыжылося» ў рэспубліцы ўжо з 9 снежня, галоўны банк не спяшаўся з каментарыямі гэтай падзеі. Учора ж мы атрымалі тлумачэнне ўпраўлення інфармацыі Нацыянальнага банка, якое датычыцца новага курса.**

Згодна з ім, новы курс замежных валют устанаўліваецца Нацбанкам з серады бягучага тыдня і прыкладна адпавядае курсу беларускага рубля, які складваецца на знешнім рынку. Дарэчы, па гэтаму курсу галоўная фінансавая ўстанова рэспублікі набывае СКВ у прадпрыемстваў, банкаў і насельніцтва.

Як вынікае з каментарыя ўпраўлення інфармацыі, курс, які ўстанаўлівае Нацбанк, уведзены па пагадненню з Міністэрствам фінансаў у мэтах рэальнага адлюстравання аперацый, якія ажыццяўляюцца суб'ектамі гаспадарання Беларусі ў замежнай валюце. Як лічаць у Нацбанку, спецкурс стварае спрыяльныя фінансавыя ўмовы для эканамічнага росту прадпрыемстваў-экспарцёраў. Гэтае новаўвядзенне з'яўляецца лагічным працягам мераў па стабілізацыі валютнага рынку і накіравана на дасягненне збалансаванасці ўсіх яго сегментаў.

Як сведчыць тлумачэнне Нацбанка, па-ранейшаму афіцыйны курс будзе ўстанаўлівацца па выніках таргоў на МВБ. Па ім ажыццяўляюцца здзелкі па куплі і продажы замежнай валюты на набыццё крытычнага імпарту (энерганосьбіты, медыкаменты, збожжа і іншая сацыяльна значная прадукцыя).

Згодна з інфармацыяй Нацбанка, валюта, якая будзе набывацца суб'ектамі гаспадарання па афіцыйнаму або сацыяльнаму курсу для вытворчасці прадукцыі, будзе адносіцца на яе сабекошт. Пры гэтым затраты на куплю СКВ адлюстроўваюцца ў бухгалтарскім уліку.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## АЙЧЫННЫ ФАРФОР: САМІ ВЫРАБЛЯЕМ, САМІ СПАЖЫВАЕМ...

**Гэтымі днямі свой 20-гадовы юбілей адзначае буйнейшы пастаўшчык на беларускі рынак фарфора-фаянсавых вырабаў — ЗАТ «Добрушскі фарфоравы завод».**

Па словах яго дырэктара Мікалая Белага, зараз Добрушскі фарфоравы завод выкарыстоўвае 98 працэнтаў сваіх магутнасцяў, і ў сёлетнім годзе рост тэмпаў вытворчасці склаў тут, у параўнанні з 1997 годам, 120—130 працэнтаў.

Нягледзячы на ажыятажны попыт на добрушскі посуд і пустыя заводскія склады, кіраўніцтва прадпрыемства кожны квартал абнаўляе асартымент — цяпер тут 100 найменняў каля 2,5 тысячы артыкулаў.

Прыходзіцца канстатаваць, што ў беларусаў большай папулярнасцю карыстаецца утылітарны, а не высокамастацкі фарфор. Магчыма таму, што, напрыклад, высокамастацкі сервіз з кобальту добрушскага паходжання каштуе зараз каля 60 долараў ЗША і па кішэні не кожнаму беларусу. Хаця, у параўнанні з Захадам, дзе аналагічны сервіз каштуе 800 долараў, беларуская цана выглядае проста смешнай. У агульным жа аб'ёме вытворчасці ручныя жывапісныя работы займаюць на заводзе 15 працэнтаў.

35 працэнтаў прадукцыі накіроўваецца ў Расію, а вось на Захад дарога нашаму посуду закрыта: як па белізне, так і па таўшчыні вырабаў беларускі фарфор заходняму сaступае. Гэта тлумачыцца ў першую чаргу састарэлымі тэхналогіямі. Калі перааснашчэнне вытворчасці не адбудзецца ў бліжэйшыя 3—5 гадоў, то, на думку Мікалая Паўлавіча, яны рызыкуюць страціць пакупніка і на нашым рынку. Менавіта таму на свет з'явіўся сумесны план перааснашчэння фарфора-фаянсавай галіны дзвюх краін — Беларусі і Расіі. З беларускага боку да ажыццяўлення праекта будзе прыцягнута машынабудаўнічая база ў Баранавічах, з расійскага — радовішча Жураўліны Лог. Затраты на ажыццяўленне праграмы складуць 7-8 млн. дойчмарак.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## МАЛАКО, МЭБЛЯ, ДЫВАНЫ...
### ЗАТРЫМАНА АМАЛЬ НА 10 МІЛЬЯРДАЎ ГЭТАЙ ПРАДУКЦЫІ

**Віцебскай транспартнай міліцыяй сумесна з мытнікамі затрыманы вагон са згушчаным малаком, які накіроўваўся на адрас ААТ у Санкт-Пецярбургу. У вагоне знаходзілася 133 тысячы 920 бляшанак на суму тры мільярды рублёў. Зразумела, груз спрабавалі вывезці без адпаведных дакументаў.**

Без дазволу на вываз прадукцыі затрымалі смалявіцкія аператыўнікі ў гэты ж дзень грузавы аўтамабіль «МАЗ», які належыць ААТ з Брэста. У машыне перавозілі 7208,24 кв. метра дывановых вырабаў у Маскву. Як падлічылі спецыялісты, кошт грузу складаў 5 мільярдаў 113 мільёнаў рублёў.

Вызначыліся і супрацоўнікі Барысаўскага РАУС, якія затрымалі машыну, што накіроўвалася ў Іжэўск з мэбляй. Для поўнага «камплекту» грузу, як і ў двух папярэдніх выпадках, не хапала дакументаў з дазволам на вываз. Мэбля ацэнена ў 1 мільярд 305 мільёнаў рублёў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## БУДЗЕМ ВЕДАЦЬ, З ЧАГО ТАЯ КАЎБАСА?

**З 1 студзеня 1999 года ў Беларусі планавалася абавязковае ўвядзенне новай маркіроўкі на шэраг харчовых тавараў, якая б утрымлівала інфармацыю для спажыўца аб харчовай каштоўнасці, саставе прадукту.**

Зразумела, такая маркіроўка існуе на многіх таварах і зараз, але іх спіс плануецца істотна павялічыць, а яе змест — упарадкаваць. Новаўвядзенню дадзена адтэрміноўка на шэсць месяцаў. Столькі часу патрэбна вытворцам тавараў, каб улічыць новыя патрабаванні для выпускаемай прадукцыі. Магчыма, тады мы нарэшце даведаемся, чым жа адрозніваюцца два розныя гатункі (па назве і кошту) каўбасы, але аднолькавыя па смаку...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## БЕЛАРУСКІЯ ВЫТВОРЦЫ СТАВЯЦЬ НА НАС ЭКСПЕРЫМЕНТ ПА ВЫЖЫВАЛЬНАСЦІ

**У рамках правядзення ў сталіцы выставак «Свет спажыўца-98» і «Антырэклама» прайшло пасяджэнне «круглага стала» на тэму «Якасць спажывецкіх тавараў і абарона правоў спажыўцоў», удзел у якім прынялі Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, Міністэрства аховы здароўя, Дзяржстандарт, прадстаўнікі дэпутацкага корпуса, органаў кіравання і кантролю, гандлю, таваравытворцы і рэгіянальныя таварыствы спажыўцоў.**

Амаль усе выступоўцы адзначалі апошнім часам рост колькасці парушэнняў Закона РБ «Аб абароне правоў спажыўцоў», і адной з прычын гэтай негатыўнай з'явы называлі ажыятажны попыт беларусаў на шэраг тавараў і як вынік — зніжэнне якасці прапаноўваемай яму прадукцыі. Так, з 2793 суб'ектаў гаспадарання, правераных Дзяржстандартам за 10 месяцаў гэтага года, парушэнні патрабаванняў стандартаў былі выяўлены ў 73 працэнтах з іх, а прадукцыя на суму 170 млрд. рублёў не трапіла ў продаж. Парушэнні санітарна-гігіенічных патрабаванняў (у тым ліку і па ўтрыманню кішэчнай палачкі) былі дапушчаны на 121 малочным заводзе са 165 правераных Дзяржстандартам. У сувязі з гэтым узнікае пытанне, а колькі ж няякасных тавараў кантроль абышоў? Можна колькі заўгодна гаварыць аб зношаным абсталяванні, адсутнасці на беларускіх прадпрыемствах сучасных тэхналогій, але ясна адно: у першую чаргу на іх адсутнічае належны кантроль за парушэннямі тэхналагічных працэсаў. Дарэчы, усе ўспышкі інфекцыйных захворванняў у Беларусі ў гэтым годзе былі выкліканы менавіта незахаваннем санітарна-гігіенічных правілаў на прадпрыемствах харчовай вытворчасці.

Зараз Міністэрствам прадпрымальніцтва і інвестыцый распрацаваны праект новага дэкрэта, які прадугледжвае штрафныя санкцыі да парушальнікаў Закона «Аб абароне правоў спажыўцоў», якія ў самім законе не вызначаюцца. Напрыклад, за рэалізацыю тавараў са скончаным тэрмінам рэалізацыі ці ўвогуле без указання гэтых тэрмінаў, парушальнік павінен будзе выплаціць трохразовы памер кошту рэалізаваных тавараў, а за гандаль таварамі без адпаведнай ліцэнзіі — штраф да 100 мінімальных заработных плат.

Пакуль застаўся незаўважаным шырокай грамадскасцю той факт, што, згодна з Пастановай Савета Міністраў «Аб абароне правоў спажыўцоў», прынятай 13 лістапада гэтага года, у мясцовыя выканаўчыя органы ўлады на штатнай падставе былі ўведзены 200 прадстаўнікоў па абароне правоў спажыўцоў, надзеленых для гэтага спецыяльнымі паўнамоцтвамі. Наколькі эфектыўным акажацца гэтае новаўвядзенне, пакажа час, але на сённяшні дзень, па словах кіраўнікоў рэгіянальных таварыстваў спажыўцоў, дзяржаўныя органы не ўзбудзілі ў судзе практычна ніводнага іску па абароне правоў спажыўцоў. Гэта робяць толькі грамадскія арганізацыі. Таму апошнім давяраюць абараняць свае правы, згодна з апытаннем грамадскай думкі, 60 працэнтаў спажыўцоў, а дзяржаўным органам — толькі 9 працэнтаў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### СЁННЯ

**МЕСЯЦ**

**Апошняя квадра 10 снежня**
***З 0.13 — 24-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Шаляў.***

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Парамона, Нектарыя**
**К. *Адэлаіды, Аляксандра***

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, снег, мяцеліца. Вецер паўночна-заходні, 6—11 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 9—11, Мінску — 7—9, Гродне і Гомелі — 6—8, Брэсце — 5—7 градусаў ніжэй нуля.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 13-га ўдзень — у заходніх раёнах, 14-га — на большай частцы тэрыторыі снег, слабая мяцеліца, месцамі туман, галалёд. Вецер заходні, 5—10 м/сек. Тэмпература 13-га ўначы — 11—16, удзень — 5—10, на захадзе — 1—6; 14-га ўначы — 2—7, удзень — 0—5 градусаў марозу.

## КАЛЯСКА-ЗАБОЙЦА, ХЛЕБ З ПРУСАКАМІ, НЕРАСТВАРАЛЬНАЯ КАВА — УСЕ ГЭТЫЯ ТАВАРЫ ПРАПАНУЮЦЬ ТАБЕ, ПАКУПНІК...

**Дзе можна ўбачыць булку белага пшанічнага хлеба з украпленнямі з... прусакоў ці тэлефонны апарат з аднабаковай сувяззю, шумам у трубцы, які не падае сігналаў і не дазваляе набраць нумар абанента? Не, зусім не на звалцы, як падумалі многія з нашых чытачоў, а ў беларускіх гандлёвых арганізацыях, дзе іх і знайшлі прадстаўнікі мясцовых органаў санэпіднагляду, Дзяржстандарта і Міністэрства гандлю і даставілі ў якасці экспанатаў на выстаўку «Антырэклама», якая прайшла ў сталіцы.**

Трэба заўважыць, што выстаўка, мэтай правядзення якой з'яўляецца распаўсюджванне інфармацыі аб недабраякасных таварах сярод спажыўцоў, праводзіцца ўжо чацвёрты раз, але няхваткі ўзораў яна не адчувае.

Чаго варта толькі дзіцячая адкрытая прагулачная каляска Клімавіцкага завода металавырабаў, якая, па вызначэнню спецыялістаў, для дзяцей проста небяспечная. Яна мае 6 месцаў, у якія дзіця можа ўваткнуць пальцы і атрымаць траўму, што, дарэчы, і адбылося ў чэрвені гэтага года, калі траўму з наступнай «траўматычнай ампутацыяй мяккіх тканак кісці» атрымаў аднагадовы малыш. Характэрны той факт, што, нягледзячы на неаднаразовыя заўвагі спецыялістаў, кіраўніцтва завода не прыняло ніякіх мераў. Магчыма, зрабіць гэта іх прымусіць цяпер іск пацярпелай сям'і ў суд на прадмет кампенсацыі маральнага і матэрыяльнага ўрону.

Вельмі шырока прадстаўлены на выстаўцы «Антырэклама» стэнд з няякаснымі прадуктамі харчавання: тут і кава «4 Amigos», якая не раствараецца ў вадзе, і яблыкі працёртыя з цукрам Юрацішкаўскага агароднінасушыльнага завода, якія ўяўляюць сабой далёка не ласунак, а неаднародную масу з вялікай колькасцю бурбалак у забруджаным слоіку, і малдаўская кабачковая ікра з грубымі часцінкамі насення і пераспелай агародніны, і мурманская натуральная пячонка траскі з цёмнымі плямамі, пажаўцелымі ўчасткамі тканак, цёмным, непразрыстым тлушчам.

Як заўсёды, дружна выступілі на выстаўцы і беларускія абутковыя прадпрыемствы: на гэты раз «праштрафіліся» Гродзенская абутковая фабрыка, ТАА «Сівельга», СП «Рэйліт», ААТ «Бабруйская абутковая фабрыка». Акрамя дэфектаў злучэнняў, заломаў, механічных пашкоджанняў, непрыклеенай падэшвы, беларускі абутак яшчэ і здольны атручваць свайго гаспадара рэзкім пахам, зусім як кітайскія лялькі, прадстаўленыя тут жа, з узроўнем паху ў 4 балы пры дапушчальнай норме не больш як 2 балы.

Не выратуе ад дажджу і парасон Нараўлянскага завода «Гідраапаратура» з дыягназам «не забяспечваецца замацаванне купала ў складзеным выглядзе, зламаны наканечнікі спіцаў, разбіта верхняя перасоўная каронка».

Адным словам, да цывілізаванага рынку нашай краіне яшчэ доўга ісці.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ПРЫЕМНЫЯ НАВІНЫ ЁСЦЬ — У БФК

**Беларускі фонд культуры падвёў вынікі працы за год. Але галоўнае — у наступным годзе колькасць праектаў, якія ажыццяўляюцца пры ўдзеле БФК, павялічыцца.**

Нягледзячы на складанасці, у першую чаргу фінансавыя, фонд змог не толькі захаваць традыцыйныя праграмы, але і ў нечым палепшыць іх. Дзве агульнавядомыя праграмы — «Вяртанне» і «Вернутыя імёны» атрымалі на гэты і будучы год грант Дзяржаўнага камітэта па навуцы. Камісія «Вяртанне» пачала пошук новых матэрыялаў у архівах Расіі, Літвы, Польшчы, Германіі, каб ужо да канца будучага года выдаць іх асобным зборнікам. Камісія «Вернутыя імёны» склала праект даведніка, у які ўключаны звыш 200 персаналій слаўных прадстаўнікоў нашай Бацькаўшчыны.

Цікавымі і пазнавальнымі былі мерапрыемствы праграмы «Адраджэнне духоўнай культуры старажытных гарадоў і паселішчаў Беларусі». Навукова-практычныя канферэнцыі прайшлі ў Слуцку і ў мястэчку Крэва Смаргонскага раёна.

Але сапраўдная ўдача спадарожнічала супрацоўнікам фонду ў рабоце над праграмай 200-годдзя Адама Міцкевіча і Аляксандра Пушкіна. Дзяржаўная юбілейная камісія падтрымала прапанову БФК выдаць паэму Міцкевіча «Пан Тадэвуш» на трох мовах і раман у вершах «Яўгеній Анегін» Пушкіна.

Наступны год абяцае быць таксама насычаным культурнымі юбілеямі. Сярод іх — 1000-годдзе Друцка, 200-годдзе Пушкіна, 180-годдзе з дня нараджэння вялікага кампазітара, ураджэнца в. Убель Чэрвеньскага раёна Станіслава Манюшкі. На думку старшыні БФК Уладзіміра Гілепа, у дачыненні да С. Манюшкі ў нас робіцца альбо мала, або не тое, што павінна рабіцца.

У адпаведнасці з пратаколам, які падпісалі Міністэрства культуры і Мінгарвыканкам па выкарыстанню дамоў у Верхнім горадзе, дом, у якім жыў кампазітар, павінны былі перадаць пад музей і канцэртную залу музычнай школы № 10. На жаль, яго занялі камерцыйныя фірмы. Як будзе ўспрымацца мемарыяльная дошка побач з дарагімі шыльдамі фірмаў? Калі, вядома, такая дошка ў гонар кампазітара ўсё ж такі з'явіцца.

Выгляд і сапраўднае культурнае і нацыянальнае напаўненне Траецкага прадмесця вельмі непакояць супрацоўнікаў БФК, якія штодня ідуць на работу ў свой будынак у Траецкім. Падабенства яго са старым Мінскам толькі знешняе. Каб напоўніць Верхні горад яшчэ і духоўным зместам, абапіраючыся на старажытныя беларускія традыцыі, у БФК узяліся і распрацавалі праект «Траецкі кірмаш». Бо ў зусім недалёкай мінуўшчыне тут штодня віраваў Траецкі рынак.

Але гэты праект вымагае асобнай гаворкі.

*— Ідэя гэтая апраўдана яшчэ і тым, што пачатак нацыянальна-культурнага адраджэння выклікалаў усплёск цікавасці да каранёвых формаў нацыянальнай культуры, — падкрэсліў Уладзімір Гілеп. — У рэспубліцы ўжо існуе міжведамасная структура народных промыслаў і рамёстваў. Працуюць клубы майстроў, разнастайныя гурткі па навучанню народным рамёствам, кафедры спецыялізацыі ў ВНУ, вучылішчы дэкаратыўна прыкладнога мастацтва, фабрыкі мастацкіх вырабаў — у сферы вытворчасці. Таму востра паўстаюць праблемы сацыяльнай запатрабаванасці народных майстроў, збыту іх вырабаў, рэкламы народнай творчасці. А на цяперашні дзень сістэма рэалізацыі вырабаў народных рамёстваў адсутнічае. Штотыднёвыя выстаўкі-кірмашы, якія мы плануем пачаць з мая 1999 года, памаглі б выправіць становішча. У кожнага раёна рэспублікі будзе магчымасць прадставіць сваіх майстроў, але не толькі іх. Тут магчымы выступленні запрошаных з месцаў фальклорных калектываў, знаёмства з традыцыйнай мясцовай кухняй.*

*І яшчэ адзін, асабліва важны клопат: стварэнне моўнага асяродка падчас правядзення памянёных выставак-кірмашоў. Скажу шчыра: не вельмі часта гучыць родная мова на прадмесці. І гэта засмучае. А мова ж — падмурак усяго нашага светлага храма духоўнасці. Таму важна пастарацца зрабіць так, каб на кірмашах яшчэ раз адчулі асалоду роднай мовы, яе цудоўныя пералівы з рэгіёнаў. Ёсць намер запрасіць на кірмаш нашых вядомых паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў.*

Пагадзіцеся, прыемна, што цяпер, калі ўсе скардзяцца на недахват грашай, ёсць людзі, якія нават збіраюцца пашыраць сваю дзейнасць. Яны ўпэўненыя ў тым, што робяць. Бо ведаюць, дзеля чаго. У Беларускага фонду культуры намецілася фінансавая стабілізацыя. На рахунак фонду сталі паступаць сродкі ад гаспадарчай і вытворчай дзейнасці. Па стану на 1 лістапада іх паступіла больш 1 мільярда рублёў. Гэта дало магчымасць выканаць план творчай дзейнасці. І падумаць пра будучыню.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ТРЫ ПЫТАННІ ДА ЧЫТАЧА

**Ігар ПАЛУЯН, кіраўнік прэс-цэнтра Міністэрства замежных спраў Беларусі**

**1. Чаму вы чытаеце «Звязду»?**

— Па-першае, таму, што гэта адна з асноўных газет Беларусі — самабытная, з вялікімі традыцыямі, гісторыяй. І па-другое, гэта проста цікавая газета, у якой наша міністэрства (ды, думаю, і іншыя) чэрпае для сябе неабходную інфармацыю.

**2. Што вам падабаецца ў «Звяздзе»?**

— Мяне, як спецыяліста, задавальняе асвятленне міжнароднай тэматыкі на старонках вашай газеты.

**3. Што хацелі б змяніць у газеце?**

— На папярэдняе пытанне я адказаў, што мяне задавальняе асвятленне ў вас міжнароднай тэматыкі, аднак да ідэалу, вядомая справа, яшчэ далёка. Натуральна, што газета сёння не ў стане ўтрымліваць свае карэспандэнцкія пункты за мяжой, таму і атрымліваецца, што нярэдка міжнародная інфармацыя друкуецца ў вас крыху ўстарэлая. Зрэшты, гэта бяда, бадай, усіх нашых газет.

## *Толькі факт*

- У рэспубліцы функцыянуе **26 камерцыйных банкаў.** У сямі буйнейшых банках сканцэнтравана 89 працэнтаў усіх актываў сістэмы, на іх долю прыпадае 91 працэнт усіх крэдытных укладанняў, амаль 80 працэнтаў укладаў насельніцтва.
- Чыстыя **свабодныя рэзервы** Міжнароднага валютнага фонду на канец лістапада складалі 28 мільярдаў долараў.
- Паводле даных Мінстата, на 1 ліпеня гэтага года **колькасць народжаных** у краіне ў параўнанні з мінулым годам павялічылася на 2 працэнты, памерлых — зменшылася на 4,3 працэнта.
- Паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, да 2030 года **70 працэнтаў ахвяр курэння** будуць жыць у развіццёвых краінах. У іх чакаецца сямікратны рост смяротнасці ад курэння — да 7 мільёнаў чалавек у год.

*Скандал*

# БЕЛАРУСКІМ КІК-БАКСЁРАМ У ГЕРМАНІІ ПАКАЗАЛІ АД ВАРОТ ПАВАРОТ УСЯГО ЗА 1000 ДОЛАРАЎ ЗША

Непрыемным сюрпрызам завяршыўся для беларускіх кік-баксёраў нядаўні чэмпіянат Еўропы па кік-боксінгу, які праходзіў у першай дэкадзе снежня ў германскім Леверкузене. Дакладней будзе сказаць, што для ўрэзанай з-за фінансавых магчымасцяў каманды ў саставе гамельчаніна Сяргея П'янова (кік-клуб «Полымя») і віцебляніна Дзмітрыя Расляка, дарэчы, чэмпіёна еўраазіяцкіх гульняў у раздзеле фул-кантакт (кік-клуб «Вікас») і яшчэ аднаго трэнера ён і не пачынаўся. Па прыездзе да месца спаборніцтваў высветлілася, што беларускі дуэт да стартаў не будзе дапушчаны, паколькі айчынная федэрацыя кік-боксінга і тайландскага бокса не заплаціла ў Міжнародную федэрацыю (WAKO) штогадовы ўзнос у памеры адной тысячы амерыканскіх долараў. Няцяжка было ўявіць расчараванне нашых атлетаў і трэнера, якія мелі на руках білеты дамоў з «папраўкай» на тыдзень і забраніраванае месца ў атэлі.

Прыйшлося ўвесь чэмпіянат прабыць у ролі статыстаў і гледачоў, і перажываць не толькі з-за «спаленых» дарэмна валютных сродкаў на паездку, якія з вялікай цяжкасцю прыйшлося шукаць (а кашатарыс на кожнага беларускага «дэлегата» склаў звыш 800 дойчмарак), але і за прэстыж рэспублікі. Як-ніяк, а ў еўрачэмпіянаце ўдзельнічалі 38 краін кантынента. І толькі ў Беларусі на пару з Арменіяй не знайшлося 1000 «зялёных», каб быць дапушчанымі да прэстыжнага турніру.

Па словах прэзідэнта Беларускай федэрацыі кік-боксінга і тайландскага боксу Яўгена Кацельнікава, для нашай спартыўнай рэспублікі, дзе кік-боксінг адыгрывае не апошнюю ролю ў фарміраванні станоўчага іміджа краіны, сорамна не быць дапушчаным да чэмпіянату Еўропы. Дарэчы, штогадовы ўзнос у WAKO трэба пералічваць да 1 ліпеня. Для Беларусі было зроблена выключэнне. І нацыянальную каманду нават дапусцілі да стартаў на нядаўнім першынстве кантынента ў Кіеве, адкуль нашы прывезлі аж 22 медалі, палова з якіх — залатыя.

Сумна, што такі «паварот» можа быць не апошнім, бо пакуль яшчэ не ўплачаны ўзнос у памеры 250 «зялёных» у Міжнародную федэрацыю тайландскага бокса. Як бы не здарылася так, што з-за фінансава-эканамічнай няўстойлівасці Беларусь у міжнародных спартыўных колах будуць патроху забываць. І пачатак таму ўжо пакладзены.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



## Ці паўторыць Наталля Гайда рашэнне Іосіфа Кабзона?

**Наталля Гайда распачала гастрольнае турнэ па Беларусі з гарадоў Мінскай вобласці — Беразіно, Чэрвеня, Жодзіна, Барысава.**

У будучым годзе прыма беларускай аперэты аб'едзе з канцэртамі іншыя вобласці. Завершыцца гэтая акцыя, якая ладзіцца сумесна з фондам развіцця культуры, вялікім творчым вечарам у Мінску прыкладна ў маі. Бо менавіта на гэты час прыпадае своеасаблівы юбілей артысткі — 30-годдзе творчай дзейнасці ў Беларусі.

У нашай краіне Наталля Гайда апынулася пасля некалькіх гадоў працы ў Свярдлоўскім тэатры оперы і балета. Там сваю «беларусачку», між іншым, памятаюць, і калі оперны тэатр Екацярынбурга адзначаў юбілей, яе запрасілі на ўрачысты канцэрт. Там жа Наталлю Гайду слухаў Барыс Ельцын, які знаходзіўся сярод гасцей у першым радзе. Але пік творчасці Наталлі Гайды прыпаў на гады працы ў Тэатры музычнай камедыі Беларусі. Яна памятае першую ролю ў спектаклі Юрыя Семянякі «Пяе жаўранак». Потым ён жа спецыяльна для Гайды напісаў «Паўлінку». Для яе Яўген Глебаў стварыў «Мільянершу». З беларускай аперэтай спявачцы пашчасціла.

У 1997-98 гадах Сусветным біяграфічным цэнтрам у Кембрыджы Наталля Гайда, народная артыстка Беларусі, прызнана чалавекам года. Але сама яна болей даражыць прызнаннем краіны, у якой працуе.

Яна спадзяецца, што гастрольны тур нагадае пра гады маладосці, калі шмат прыходзілася ездзіць па раёнах. Зараз хочацца нанова перажыць адчуванне дарогі і былых сустрэч. Наталля Гайда жартуе:«Як Кабзон, я раблю гастрольны тур, пасля якога, магчыма прыпыню канцэртную дзейнасць».

Што ж, застанецца тэатральная.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

## Генадзь БУРАЎКІН



*Колькі не лайце народ,*
*Ён горшым не стане.*
*Колькі не слаўце народ,*
*Ён лепшым не будзе.*
*Немыя крыкі*
*Нічога змяніць не ў стане.*
*Усё вызначаюць,*
*Усё вырашаюць*
*Людзі.*

*Як жа да іхніх аглухлых вушэй дакрычацца?*
*Як да знявераных сэрцаў халодных дастукацца?*
*Горкія слёзы*
*Расталі ў напоўненай чарцы.*
*Сумная споведзь*
*Ахрыпла ў раз'ятраным грукаце.*

*У далягляды*
*Няўцямна ўзіраюцца дзеці.*
*Як зберагчы*
*І сябе, і народ наш*
*Ад згубы?*
*Выцершы слёзы,*
*Адрынуўшы крыўды і здзекі,*
*Робячы чорную працу,*
*Сціснуўшы зубы!*

*Выйдзем да вольнага свету*
*Дасведчанымі мужамі.*
*З годнасцю*
*Абаронім*
*Гонар сваёй дзяржавы.*
*Станем нарэшце народам,*
*Які сам сябе паважае!*
*Будзем урэшце народам,*
*Вартым і песні, і славы.*

* * *

*У тупой базарнай даўцы*
*На нязжатай паласе*
*Занялі хрыстапрадаўцы*
*Месцы выгадныя ўсе.*

*І цяпер глядзі:*
*Нібыта*
*Не скародзяць, не куюць, —*
*А агульны наш набытак*
*Гэтак бойка прадаюць.*

*Прадаюць і край свой горды*
*За суседскі мех дзярма,*
*Хто — за крэсла,*
*Хто — за ордэн,*
*А хто — проста задарма.*

*Ладзяць д'ябальскія гульні,*
*Лапяць зношаны хамут...*
*Што ім клопат наш агульны?*
*Што ім наш бацькоўскі кут?*

*Што ім матак галашэнне*
*І зусім пустая клець?..*
*Ім бы з поўнаю кішэняй*
*На чужы кірмаш паспець.*

*Знікнуць тлумным караванам —*
*І акажамся мы ўсе*
*На збуцвелай,*
*Здратаванай,*
*Неўзаранай паласе...*

* * *

*Задыхаюся ў пыле і ў мыле.*
*З ног валюся ад сумятні.*
*Ухайдокалі,*
*Надламілі*
*І мяне акаянныя дні.*

*Пазаблыталі ўжо ўсё чыста:*
*Не ўяўляю,*
*Дзе я жыву.*
*Палітолагі,*
*Журналісты*
*Затлумілі зусім галаву.*

*Цягнуць злева*
*І клічуць справа,*
*Звон разгойдваюць вечавы...*
*Божа мой,*
*Ну якая справа*
*Мне да гэтай бойкай братвы?*

*Ну навошта мне цень вусаты*
*І стары акрываўлены сцяг?..*
*Хай мусоны ўсе і пасаты*
*Міма нас ляцяць у працяг.*

*Хай ля ўлады таўчэцца чэлядзь*
*І падбрыкваюць порстка панкі,*
*І зладзюжны набытак дзеляць,*
*І да славы бягуць нацянькі!..*

*Не па мне сёння ў свеце такое.*
*Напрамілы Бог я прашу:*
*Ну пакіньце мяне ў спакоі!*
*Ну не лезьце пішчом у душу!*

* * *

*Глынуўшы ветру і прыволля,*
*Шукаў я мудрасць і спакой*
*У цёмным лесе,*
*Чыстым полі,*
*Над віратліваю ракой.*

*Ураз забыўшы ўсе навукі,*
*Як голас з космасу,*
*Лавіў*
*Старых гаёў начныя згукі*
*І шэпат вечаровых ніў.*

*Вось недзе піскнула палёўка.*
*Вось дзяцел грукнуў па сасне...*
*А мне і жудасна, і лёгка,*
*Як быццам у дзіцячым сне.*

*І небу хочацца маліцца,*
*І роднай сцішанай зямлі,*
*Што гэтак проста*
*Таямніцы*
*Душой спазнаць дапамаглі.*

*Як выкліканы боскай позвай,*
*Стаю ў сутонні над ракой,*
*Шчаслівы,*
*Што, хаця і позна,*
*Знайшоў і мудрасць, і спакой.*

### СТРАХ

*Вы верыце прамовам,*
*Што на сваёй зямлі*
*Нарэшце канчаткова*
*Мы страх перамаглі*
*І што ніколі болей*
*Не ступіць на парог,*
*Не сцісне сэрца болем*
*Бязлітасны спалох?..*

*А за спіною глуха*
*Паўзе зларадны шэпт,*
*Свідруе мозг і вуха:*
*— За ўсімі сочыць шэф.*
*Усе ўзнімайце лапкі,*
*Бо на любога з вас*
*Ёсць у архівах папкі*
*І рапартаў запас.*
*Там вечар учарашні*
*І кожны цмок і глык,*
*І плёткі ўсе,*
*І шашні*
*Пастаўлены на ўлік.*
*І гэта ўсё аднойчы,*
*Як выбуховы тол,*
*Не паглядзеўшы ў вочы,*
*Вам пакладуць на стол...*

*І як вас ні лячылі,*
*А стрэс па сэрцы —*
*Трах!*
*Ну вось...*
*А вы лічылі,*
*Што вас не возьме страх...*

### СКУНС

*Ёсць у Амерыцы звярок,*
*Які завецца скунсам...*
*Дык вось давай сабе зарок*
*І да яго не сунься,*
*Бо не адмыешся за дзень*
*Ад чортава адроддзя,*
*Як пусціць з-пад хваста струмень*
*І едка насмуродзіць...*

*Ну хай бы жыў сярод дзівос,*
*Сярод чужога люду,*
*Дык нехта ж і да нас прывёз*
*Смярдзючага паскуду.*

*І што вы думаеце? —*
*Лёс*
*Якраз прылашчыў гэткіх:*
*У тэлескрынку ён запоўз,*
*Здабыў гняздо ў газетках.*

*І калі дзе крамола ёсць*
*Ці вольніца якая,*
*Ён узнімае шчэццю поўсць*
*І свой струмень пускае.*

*І лёгка мае хлеба кус*
*І цёплы кут за плотам,*
*Бо сёння гэты самы скунс —*
*Патрэбная істота.*

*Але ўжо ў многіх у душы*
*Варушыцца спакуса*
*Аднойчы ўзяць ды прыдушыць*
*Абрыдзелага скунса.*

### СУСТРЭНЕМСЯ НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

(Песня)

*Калі павее вечаровай свежасцю*
*І загарацца ліхтароў агні,*
*Прыходзь тады на плошчу Незалежнасці,*
*Каб разам пастаяць у цішыні.*

*Бульвар прасторны дзённай стомай дыхае.*
*У небе стынуць зоркі-спарышы.*
*А над зямлёй плыве лагода ціхая*
*І роздум пасяляецца ў душы.*

*Нам ёсць што ўспомніць,*
*Ёсць аб чым параіцца*
*Каля сівых задумлівых муроў.*
*Мы зможам дачакацца светлай раніцы*
*Сярод надзейных маладых сяброў.*

*Не бойся ні туманнасці, ні снежнасці,*
*Хай дождж сячэ або пячэ мароз.*
*Сустрэнемся на плошчы Незалежнасці*
*Дакладна ў час, які прызначыў лёс.*

*Па вечнаму закону непазбежнасці*
*Разлучымся з адчаем і журбой.*
*Сустрэнемся на плошчы Незалежнасці*
*І болей не расстанемся з табой...*

**Калі б лёс прызначыў ім сустрэцца ў гэтым жыцці яшчэ раз, праз паўвека пасля расстання, яны наўрад ці пазналі б адно аднаго. У яго нават імя ўжо не тое: цяпер усе з павагай завуць Аляксандр Сямёнавіч, як у дакументах запісана, а тады, у сорак сёмым, быў проста Алёша — так бацькі звалі. Дый яе, калі жывая, па-іншаму, пэўна, называюць. Хаця хто яго ведае, як яны там, у Японіі, сваіх бабуль клічуць...**

*Ён і Яна*

# ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ БЕЗ ПРАВА НА СПАТКАННЕ

ГЭТЫ ЧАЛАВЕК прыйшоў у рэдакцыю зусім не дзеля таго, каб расказваць пра сваё жыццё, а тым больш пра сваё каханне. Але неяк слова за слова — і вось ён ужо быў там, у мінулым, і гаварыў, гаварыў пра сваё першае, нязбытае, няспраўджанае, якое — як росчырк праз усё жыццё. Я неўпрыкмет уключыла дыктафон, а потым папрасіла дазволу пра расказанае напісаць. Ён спачатку сумеўся: няўжо нешта цікавае расказаў? Потым згадзіўся: пішыце... Боль, пранізлівы боль, ужо прайшоў. Засталіся толькі ціхі сум і светлы ўспамін...

У Алёшы, як і ва ўсіх яго равеснікаў на нашай зямлі, не было нармальнага ў цяперашнім разуменні юнацтва. Да вайны ён быў яшчэ жаўтаротым падлеткам, які хадзіць на танцы ўжо хадзіў, але толькі дзеля таго, каб пастаяць каля сцэны ды патупаць употай нагой у такт музыцы, — занадта малы яшчэ быў, каб вадзіць рэй ці заляцацца да дзяўчат. Потым ён, як і ўсе астатнія, вельмі хутка, у адзін дзень, вырас — дарослымі іх зрабіла вайна. Партызанскі атрад у балотах і лясах Піншчыны, потым праца ў райкаме камсамола ў родных, вызваленых ужо мясцінах. Але ён ірваўся на фронт і нарэшце дабіўся-такі свайго: накіравалі хлопца пад Маскву, вучыцца перад адпраўкай у дзеючую армію на шафёра. Праўда, пакуль вывучыўся, Германія ўжо капітулявала, але павяваць яшчэ давялося: і ў Маньчжурыі, і на Сахаліне. Вайна для яго скончылася ў верасні 45-га, у японскай тады Тайхары (якая вельмі хутка стала савецкім Паўднёва-Сахалінскам). Вось тады, бадай, упершыню і падумаў аб сабе: застаўся жывы, ужо за дваццаць, пасада не апошняя — генерала штаба на машыне возіць, жыллё мае па тых часах шыкоўнае — два пакоі ў былым самураеўскім асабняку, — а нечага ўсё ж у жыцці не хапае...

І тут па сцэнарыю лёсу з'явілася яна. Яна б з'явілася, напэўна, усюды, дзе б ён у той час не апынуўся. Ён быў на паўднёвым Сахаліне, які тады быў цалкам заселены японцамі. І яна з'явілася там. І, вядома ж, яна была японкай...

Аднойчы, адвёзшы генерала ў штаб, ён у некалькі вольных гадзін зайшоў у кіно. Малады салдат тады старанна вывучаў японскую мову. Фільм на ёй, дзе словы былі пацверджаны адпаведнымі дзеяннямі, быў найлепшым практычным урокам. Ішла камедыя, ён смяяўся разам з усімі, зусім не звяртаючы ўвагі, хто сядзіць з ім побач.

Але, калі выходзілі з кінатэатра, ён устаў і прапусціў перад сабой суседку, дзяўчыну гадоў дзевятнаццаці. Ён быў там адзіны «рускі», да таго ж у ваеннай форме — трэба было падтрымліваць вобраз доблеснага савецкага салдата... Японка чакала яго на выхадзе і па-руску спрабавала сказаць тое, што ён вымавіў ёй на ламанай японскай: «Я хачу з табой пазнаёміцца...» І яны адно аднаго зразумелі. Ён павёз яе на машыне ў сопкі, зусім забыўшыся пра свайго генерала...

Дзяўчыну звалі Ханамука. Яна жыла ў невялікай хацінцы разам са старой бабуляй. Маці памерла, бацька загінуў на вайне дзесьці ў Ціхім акіяне... Здавалася, Алёша павінен быць для яе акупантам, заваёўнікам, які разам з іншымі прыйшоў на іхнюю зямлю, і яна павінна была калі не ненавідзець, то пагарджаць ім. Але як можна было ненавідзець маладзенькага юнака, які да гэтага бачыў толькі вайну і які кахаў яе першым нясмела-адчайным каханнем? Дый яна за свае дзевятнаццаць што бачыла ў жыцці? Галечу, сіроцтва і зноў жа — вайну. Яны сталі адно для аднаго своеасаблівым паратункам у галодным пасляваенным свеце...

Кожная кароткая сустрэча ў сопках ці ў яе маленькай хаціны на ўскраіне была як адкрыццё. Пра будучае тады не думалі: здавалася, няма на зямлі такой сілы, якая магла б іх разлучыць. Што ім была вялікая палітыка, калі кожны з іх меў самага дарагога чалавека?

У 47-ым яму прыйшоў час дэмабілізавацца. Канешне, хацелася паехаць у Беларусь, паглядзець на родныя твары, абняць сястру і маці. Але генерал угаворваў застацца. Прапаноўваў паступіць у Хабараўскі педінстытут (хлопец вельмі цягнуўся да вучобы), абяцаў дапамагчы па службе... Карціна, ім намаляваная, падалася вельмі прывабнай, да таго ж гэта была рэальная магчымасць ніколі не расставацца з любімай жанчынай, якая пра «дэмбель» нічога не ведала, але, нібы адчуваючы нешта. У той час асабліва хінулася да яго. І ён рашыў застацца. Напісаў дадому пісьмо: не вярнуся.

Адказу чакаў доўга, часам здавалася, яго не будзе зусім. Але нарэшце прыйшло пісьмо з дому. Пісала сястра пад дыктоўку маці: «Кожную раніцу, выходзячы на двор, гляджу з надзеяй на ўсход, чакаю, што вось-вось пакажашся ты. А цябе ўсё няма і няма...» За радкамі гучаў родны, паўзабыты ўжо голас маці. І тут жа паўстаў іншы вобраз — мініяцюрнай пяшчотнай жанчыны з раскосымі вачыма... Нават праз паўвека ён скажа аб сваім колішнім стане: «Разрывалася душа». Можна сабе ўявіць, што ён адчуваў тады...

І гучаў, бесперапынна гучаў у вушах голас маці. І ён прыняў рашэнне, якое магло б стаць самым лепшым выйсцем для яго і блізкіх людзей. Ён паедзе дадому і забярэ Ханамуку з сабой. Галоўнае, каб яна згадзілася. А родныя прымуць яе як дачку. З цягам часу яна прывыкне да іншага ладу жыцця — былі б з ёю ўвага і пяшчота (а гэта ён ёй абвязкова дасць).

Наіўны юнак, ён не ведаў, што ўжо запаўняліся сталінскія лагеры новымі «ворагамі» — тымі, хто вярнуўся з палону ці меў нейкія зносіны на пераможанай тэрыторыі. Ён ніколі нават не задумваўся аб тым, што яго Ханамука — прадстаўніца варожай краіны, з якой толькі два гады як скончылася вайна... Для яго тады не існавала ніякіх перашкод, галоўнае было, каб яна згадзілася. А яна, японская жанчына, выхаваная на спрадвечных традыцыях паслухмянасці мужчыну, апусціла вочы і прамовіла: «Куды ты, туды і я...»

Генерал, прачытаўшы пісьмо маці, адпусціў. Але Ханамуку браць з сабой не дазволіў — больш дасведчаны, ён ведаў, што чакае гэтых маладых дурняў на вялікай зямлі, калі яны туды з'явяцца ўдваіх. Патлумачыць гэтага ён, канешне, не мог, таму сказаў: едзь, маўляў, пасля ці выклічаш яе да сябе, ці сам за ёй прыедзеш, калі ўсё наладзіцца там.

З тым яны і расставаліся. Ён гаварыў, што паедзе адзін, але хутка, вельмі хутка, забярэ яе з сабой. Гаварыў так не дзеля таго, каб супакоіць яе, — ён сам шчыра ў гэта верыў. Яна таксама верыла і абяцала чакаць...

Прыехаўшы дамоў, ён адразу ёй напісаў. Яна адказала: спадзяюся і чакаю... Яны абмяняліся яшчэ пісьмамі, але на трэцяе пісьмо ён адказу не атрымаў, а праз нейкі час пачуў страшную вестку: усіх японцаў з заваяванай Саюзам тэрыторыі дэпартавалі ў Японію...

Здавалася, абрушыўся свет. Яна была ў другой краіне, краіне з капіталістычным ладам жыцця. Тым не менш, скончыўшы інстытут, ён памкнуўся было яе шукаць. Але ўжо апусцілася «жалезная заслона». Яна, нябачная, але вельмі надзейная, схавала ад яго любімую жанчыну. Іх каханне стала адной з першых ахвяр «халоднай вайны»...

Ён вучыўся ў аспірантуры, працаваў, але на дзяўчат асабліва не заглядаўся: здавалася, вось зараз нешта зменіцца і ён зможа паехаць забраць яе адтуль...

Ажаніўся ён позна, калі было ўжо пад трыццаць. Жонку таксама кахаў, але ведаў: так, як з той, першай, у яго не будзе ўжо ніколі. Таму і расказаў жонцы пра сваё каханне адразу пасля знаёмства.

Калі пераязджалі на новую кватэру, вырашылі павыкідваць старыя паперы і фотаздымкі, якія страцілі сваю значнасць. Фотакартку Ханамукі, адзіную, якая была, ён паклаў у стос непатрэбных.

Жонка тут жа, нічога не гаворачы, пераклала яе да тых, што застануцца. Ён бы і сам нізавошта яе не выкінуў, але мудрая жанчына зрабіла так, што з таго моманту яна і тая, першая, прымірыліся ў яго сэрцы, нічым адна адну не засланяючы...

Яны і цяпер жывуць дружна і шчасліва. Пагадавалі дзяцей, цешацца з унукаў. Праз усё жыццё пранеслі ўзаемны давер і беражлівыя адносіны адно да аднаго...

Але разы тры-чатыры на год ён дастае маленькую пажаўцелую фотакартку і доўга моўчкі на яе глядзіць. Заўсёды, калі не бачыць жонка. А тая, можа, і ведае, але нічога не гаворыць: да ўспамінаў жа раўнаваць нельга. Ды і адабраць іх таксама...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# «ХУТКАЯ ДАПАМОГА» СПЯШАЕЦЦА

## найперш да гараджан.

## *Вяскоўцам жа застаецца толькі чакаць ...*

**Напэўна, большасці нашых чытачоў вядомы нясцерпныя хвіліны чакання прыезду «хуткай дапамогі», калі табе здаецца, што да доўгачаканага званка ў дзверы прайшла цэлая вечнасць. У такія моманты жыцця мы звычайна звяртаемся ў думках да ўрачоў і адначасова праклінаем іх за марудлівасць. Але існуюць пэўныя нарматывы, праз які час пасля атрымання выкліку брыгада «хуткай дапамогі» павінна прыбыць да пацыента. Аб гэтым і аб многіх іншых асаблівасцях працы «хуткай дапамогі» расказвае галоўны спецыяліст Міністэрства аховы здароўя РБ па аказанню хуткай медыцынскай дапамогі, галоўны ўрач Мінскай гарадской станцыі хуткай медыцынскай дапамогі Віталь ЦІЦІШЫН.**

— Тое, як хутка мы прыедзем, залежыць не толькі ад нас. Любы выклік прымае вопытны фельчар, у абавязкі якога ўваходзіць запаўненне карткі выкліку. У першую чаргу ад вас патрабуецца назваць дакладны адрас і колькасць пацярпелых. У экстранных выпадках дыспетчар яшчэ можа працягваць роспыты, а брыгада на працягу 4 хвілін ужо павінна выехаць на месца здарэння.

Нарматыў прыбыцця па выкліках экстраннай дапамогі складае ў гарадах 15 хвілін. У Мінску дзейнічаюць 8 нашых падстанцый, размешчаных такім чынам, каб да крайняй кропкі раёна абслугоўвання ехаць было не больш як 15 хвілін.

***— Віталь Елісеевіч, горад у плане медыцынскага абслугоўвання заўсёды знаходзіўся ў выйгрышным становішчы ў параўнанні з сельскай мясцовасцю. Там «хуткую дапамогу» прыходзіцца чакаць намнога больш...***

— Гэта сапраўды так. Нягледзячы на існуючы нарматыў (час даездкі — 30 хвілін) вытрымліваецца ён далёка не ўсюды. Улічваючы тыя абставіны, што многія населеныя пункты знаходзяцца ад райцэнтраў на адлегласці 60—70 км плюс дрэнныя дарогі, укласціся ў адведзеныя паўгадзіны не ўяўляецца магчымым. Да нашага прыезду можа прайсці і гадзіна. Менавіта таму ў Гомельскай, Магілёўскай і іншых абласцях пасты «хуткай дапамогі» пачалі арганізооўвацца пры ФАПах, каб можна было больш аператыўна аказваць медыцынскую дапамогу ў аддаленых населеных пунктах раёна абслугоўвання.

***— Не сакрэт, што многія з нас набіраюць «03» не толькі тады, калі існуе рэальная пагроза для жыцця. Бываюць і куды менш значныя падставы: забалела галава, жывот, падскочыла тэмпература. Які працэнт складаюць такія выклікі ў вашай працы?***

— Згодна з загадамі, якія рэгламентуюць нашу дзейнасць, «хуткая дапамога» павінна абслугоўваць у першую чаргу хворых на вуліцах, прадпрыемствах, у грамадскіх месцах, выязджаць на цяжкія траўмы, крывацёкі, сардэчныя прыступы, прыступы бранхіяльнай астмы, розныя атручэнні, да парадзіх, немаўлят і інш. У час работы паліклінік мы не павінны выязджаць да хворых з тэмпературай, галаўным болем, радыкулітам, на абязбольванне і г. д., гэта значыць, мы не павінны падмяняць паліклінікі. Аднак даволі часта такія хворыя звяртаюцца менавіта да паслуг «хуткай дапамогі»: адны лянуюцца ісці ў паліклініку, у іншых няма грошай на лекі. А каб выклікаць нас, дастаткова толькі падняць трубку тэлефона. Такія выклікі мы не адносім да катэгорыі экстранных. Гэта неадкладныя выклікі, якія займаюць у нашай рабоце 60 працэнтаў, і чакаць прыезду брыгады ў гэтым выпадку можна на працягу адной гадзіны. Праўда, калі на падстанцыі ў гэты час будзе свабодная брыгада, то неадкладная дапамога можа прыбыць і раней.

***— Цікава, у якую «капейку» абыходзіцца выклік «хуткай дапамогі» дзяржаве і наколькі часта вам прыходзіцца выязджаць ухаластую па беспадстаўных выкліках?***

— Калісьці выклік «хуткай дапамогі» каштаваў 3 рублі, потым 9 рублёў. А сёння ён абыходзіцца дзяржаве, у залежнасці ад профілю брыгады, ад 300 да 500 тысяч рублёў. А безвыніковымі, калі хтосьці недакладна назваў адрас ці «пажартаваў», у нас застаюцца каля 3 працэнтаў усіх выклікаў. Напрыклад, у Мінску быў выпадак, калі адна жанчына, помсцячы, пастаянна выклікала па начах свайму былому мужу, то «хуткую дапамогу», то пажарнікаў, то міліцыю. Пацярпелы прыйшоў да нас і па запісе на магнітнай стужцы апазнаў голас сваёй былой жонкі. Міліцыя выйшла на яе, і хуліганцы прыйшлося заплаціць адміністрацыйны штраф.

***— А ці існуюць у службы «хуткай дапамогі» так званыя «чорныя» дні, калі вы літаральна валіцеся з ног ад стомленасці?***

— Самы напружаны дзень працы для нас — нядзеля, а таксама святочныя дні. Пік жа ўсіх выклікаў прыпадае на Новы год і 1 студзеня. У гэты час павялічваецца колькасць харчовых, алкагольных атручэнняў, траўмаў, у людзей абвастраюцца хранічныя захворванні (гастрыты, халецыстыты) і інш. Так, 1 студзеня сёлетняга года мінская «хуткая дапамога» выехала па 2300 выкліках пры сярэдняй сутачнай норме па гораду 1500 выклікаў.

***— А якія справы ў службы «хуткай дапамогі» з абнаўленнем аўтапарка? Ці існуюць перспектывы з'яўлення ў бліжэйшай будучыні беларускай карэты «хуткай дапамогі»?***

— У дадзены момант наш аўтапарк вельмі разнашэрсны. Напрыклад, у гэтым годзе нам удалося набыць для сталічнай «хуткай дапамогі» 14 «Газеляў» расійскай вытворчасці, 17 «УАЗаў», «Волгу» для педыятрычнай брыгады. Дзіцячы чарнобыльскі фонд падарыў нам рэанімацыйную нямецкую машыну «Фольксваген» з абсталяваннем да яе. Плануем у хуткім часе апрабаваць у сябе калінінградскую машыну: у гэтым горадзе збіраюць паўднёвакарэйскія аўтамабілі «хуткай дапамогі», і вось дзве такія машыны павінны да нас прыбыць.

Хачу заўважыць, што мы вельмі спадзяваліся на стварэнне беларускай мадэлі «хуткай дапамогі» на базе «Фордаў», якія збіраюцца на заводзе «Форд-Юніян» у Абчаку.

***— Віталь Елісеевіч, апошнім часам у нашай краіне рэзка пагоршылася забеспячэнне медыцынскіх устаноў і аптэк лекавымі прэпаратамі. Якім чынам лекавы дэфіцыт адбіўся на функцыянаванні вашай службы?***

— Справа ў тым, што прэпараты, неабходныя для работы «хуткай дапамогі», увайшлі ў пералік жыццёва неабходных. І мы забяспечваемся імі, а таксама перавязачнымі матэрыяламі і аднаразовымі шпрыцамі ў першую чаргу. Акрамя таго намі выкарыстоўваецца і пераразмеркаванне: калі ў якой-небудзь медыцынскай установе выяўляюцца «лішнія» запасы неабходных для нашай работы лекавых прэпаратаў, то яна дзеліцца імі з намі. А, напрыклад, у Брагінскім і Хойніцкім раёнах захаваліся добрыя дабрачынныя сувязі з Захадам, і яны вялікую колькасць медыкаментаў атрымліваюць у якасці гуманітарнай дапамогі.


Фота IREX/ProMedia.

***— Працаваць у брыгадзе «хуткай дапамогі», нярэдка ў экстрэмальных абставінах, вельмі цяжка і адказна. Не кожны здольны вытрымаць такую нагрузку. Да таго ж праца медыкаў малааплатная. Праблема з кадрамі ў службы «хуткай дапамогі» існуе?***

— Вы ведаеце, самай прэстыжнай працай для фельчараў лічыцца праца на «хуткай дапамозе», таму фельчарамі мы ўкамплектаваны на ўсе 100 працэнтаў. А вось урачоў нам не хапае. Найбольш вострa праблема з кадрамі стаіць у Гомельскай, Магілёўскай абласцях і Мінску. Некалькі гадоў таму па размеркаванню давалі на Мінск па 15-16 маладых урачоў, а апошнія два гады — усяго па пяць. Магчыма, вырашылі, што больш ад адсутнасці спецыялістаў церпяць паліклінікі. Каб зняць кадравую праблему, нашы ўрачы працуюць больш чым на стаўку. Гэта, да таго ж, і дадатковая для іх магчымасць падзарабіць. Акрамя таго, да нас прыходзяць падзарабіць і многія высокакваліфікаваныя спецыялісты з іншых медыцынскіх устаноў. Але, нягледзячы на ўсё гэта, я з задавальненнем узяў бы да сябе на работу яшчэ 30 урачоў.

**Гутарку вяла Надзея НІКАЛАЕВА.**

ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ СВАБОДНЫХ ЭКАНАМІЧНЫХ ЗОНАХ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 11 лістапада 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 19 лістапада 1998 года*

Гэты Закон вызначае прававыя і арганізацыйныя асновы стварэння, дзейнасці і ліквідацыі свабодных эканамічных зон на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

***ГЛАВА 1. Агульныя палажэнні***

**Артыкул 1. Паняцце свабоднай эканамічнай зоны**

Свабодная эканамічная зона (у далейшым — СЭЗ) — частка тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з дакладна вызначанымі межамі і спецыяльным прававым рэжымам, які ўстанаўлівае больш спрыяльныя, чым звычайныя, умовы ажыццяўлення прадпрымальніцкай і іншай гаспадарчай дзейнасці.

**Артыкул 2. Спецыяльны прававы рэжым у СЭЗ**

Спецыяльны прававы рэжым у СЭЗ — сукупнасць прававых нормаў, якія ўстанаўліваюць асобы парадак і ўмовы падаткаабкладання, валютнага, мытнага і іншага рэгулявання ў СЭЗ.

Спецыяльны прававы рэжым у СЭЗ устанаўліваецца ў мэтах:

стварэння спрыяльных умоў для інвестыцый і развіцця асобных рэгіёнаў і эканомікі Рэспублікі Беларусь;

укаранення найбольш прагрэсіўных рэсурсазберагальных малаадходных і безадходных тэхналогій;

садзейнічання міжнароднай інтэграцыі і супрацоўніцтву;

гарманічнага спалучэння на аснове Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь рэспубліканскіх і мясцовых інтарэсаў, інтарэсаў суб'ектаў гаспадарання і грамадзян.

**Артыкул 3. Заканадаўства аб СЭЗ**

Заканадаўства аб СЭЗ складаецца з гэтага Закона і іншых нарматыўных прававых актаў Рэспублікі Беларусь, якія рэгламентуюць дзейнасць СЭЗ.

Іншае заканадаўства Рэспублікі Беларусь прымяняецца ў СЭЗ з улікам асаблівасцяў, прадугледжаных гэтым Законам і іншымі актамі заканадаўства, якія рэгламентуюць дзейнасць СЭЗ.

**Артыкул 4. Тыпы СЭЗ**

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь могуць ствараца СЭЗ розных функцыянальных тыпаў.

Функцыянальны тып СЭЗ вызначаецца мэтамі стварэння зоны і напрамкам інвестыцыйнай дзейнасці ў СЭЗ. У СЭЗ могуць развівацца вытворчыя, навукова-тэхналагічныя, экспартныя, гандлёвыя, турыстычна-рэкрэацыйныя, страхавыя, банкаўскія і іншыя віды дзейнасці.

СЭЗ могуць спалучаць у сабе функцыі, уласцівыя некалькім функцыянальным тыпам СЭЗ (комплексная СЭЗ).

**Артыкул 5. Адміністрацыя СЭЗ**

Адміністрацыя СЭЗ ствараецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і з'яўляецца юрыдычнай асобай. Палажэнне аб адміністрацыі СЭЗ зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Паўнамоцтвы адміністрацыі СЭЗ вызначаюцца гэтым Законам, палажэннем аб адміністрацыі СЭЗ, іншым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6. Рэзідэнт СЭЗ**

Рэзідэнт СЭЗ — зарэгістраваная адміністрацыяй СЭЗ юрыдычная або фізічная асоба ў якасці прадпрымальніка без утварэння юрыдычнай асобы, на якую распаўсюджваецца прававы рэжым, які дзейнічае ў СЭЗ.

Парадак рэгістрацыі рэзідэнтаў СЭЗ устанаўліваецца палажэннем аб СЭЗ, якое зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Рэзідэнт СЭЗ у сваёй дзейнасці кіруецца гэтым Законам, палажэннем аб СЭЗ, іншымі нарматыўнымі прававымі актамі, а таксама дагаворам з адміністрацыяй СЭЗ аб умовах дзейнасці ў СЭЗ.

Рашэнне аб рэгістрацыі рэзідэнта СЭЗ прымаецца адміністрацыяй СЭЗ. Зарэгістраванаму рэзідэнту адміністрацыя СЭЗ выдае пасведчанне аб рэгістрацыі ўстаноўленай формы.

Даныя аб рэгістрацыі адміністрацыя СЭЗ у пятнаццацідзённы тэрмін перадае ў Дзяржаўны падатковы камітэт Рэспублікі Беларусь і Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь для ўнясення адпаведна ў дзяржаўныя рэестр і рэгістр Рэспублікі Беларусь, а таксама інфармуе іншыя дзяржаўныя органы ў выпадках і парадку, прадугледжаных заканадаўствам.

Рэзідэнт СЭЗ мае права займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю за межамі СЭЗ на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з захаваннем агульных правілаў, устаноўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Забараняемыя і абмяжоўваемыя віды дзейнасці**

У СЭЗ не дапускаецца дзейнасць, забароненая заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У СЭЗ таксама забаронены наступныя віды дзейнасці:

гаспадарча-камерцыйная дзейнасць, звязаная з забеспячэннем аховы і абароны дзяржавы, а таксама з вытворчасцю, перапрацоўкай, захаваннем і продажам зброі, боепрыпасаў, выбуховых рэчываў;

вытворчасць, перапрацоўка, захаванне, абеззаражванне, продаж небяспечных і радыеактыўных матэрыялаў;

вытворчасць, перапрацоўка, захаванне, продаж наркотыкаў, наркатычных і іншых моцнадзеючых матэрыялаў;

вытворчасць, перапрацоўка, захаванне, продаж культур, якія ўтрымліваюць наркатычныя, моцнадзеючыя і ядавітыя рэчывы;

вытворчасць гарэлкі, лікёру і іншых алкагольных напіткаў, за выключэннем шампанскіх, ігрыстых, сухіх, паўсухіх, вінаградных мацаваных він, піва;

вытворчасць тытунёвых вырабаў;

вытворчасць каштоўных папер, грашовых знакаў і манет, паштовых марак;

арганізацыя латарэй;

падрыхтоўка і трансляцыя радыё- і тэлеперадач, за выключэннем тэхнічнага абслугоўвання тыпаграфій, радыё і тэлебачання;

лячэнне хворых, якія пакутуюць небяспечнымі і асабліва небяспечнымі інфекцыямі, у тым ліку венерычнымі і заразнымі скурнымі хваробамі, псіхічнымі хваробамі ў агрэсіўнай форме;

лячэнне жывёлы з асабліва небяспечнымі хваробамі;

дзейнасць, звязаная з пытаннямі знешняй працоўнай міграцыі.

Пералік небяспечных, радыеактыўных, наркатычных, моцнадзеючых і ядавітых матэрыялаў і рэчываў устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Асобнымі відамі дзейнасці, пералік якіх устанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, рэзідэнты СЭЗ могуць займацца толькі на падставе спецыяльных дазволаў (ліцэнзій).

***ГЛАВА 2. Стварэнне СЭЗ***

**Артыкул 8. Парадак падрыхтоўкі і змест прапановы аб стварэнні СЭЗ**

Ініцыятарамі стварэння СЭЗ выступаюць мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, якія ўносяць у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб стварэнні СЭЗ. Да прапановы аб стварэнні СЭЗ прыкладаюцца наступныя дакументы:

план тэрыторыі і дакладнае апісанне межаў СЭЗ, склад зямель, пералік уласнікаў зямельных участкаў, землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў, размешчаных у ствараемай СЭЗ;

рашэнне мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў аб плануемых межах СЭЗ;

праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб стварэнні СЭЗ, у якім указваюцца назва СЭЗ, тэрмін, на які яна ствараецца, мэты стварэння і задачы СЭЗ, функцыянальны тып СЭЗ, асаблівасці яе спецыяльнага прававога рэжыму;

праект палажэння аб СЭЗ;

праект палажэння аб адміністрацыі СЭЗ;

тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне неабходнасці стварэння СЭЗ і магчымасці яе існавання на аснове аналізу сацыяльных, экалагічных і эканамічных умоў на адпаведнай тэрыторыі, яе забяспечанасці матэрыяльнымі і працоўнымі рэсурсамі, навуковымі і іншымі кваліфікаванымі кадрамі, камунікацыямі, а таксама абгрунтаванне функцыянальнага тыпу СЭЗ і прапануемага прававога рэжыму ў ёй;

парадак стварэння СЭЗ з указаннем канкрэтных мерапрыемстваў і асоб (органаў), адказных за іх правядзенне, крыніц фінансавання работ па стварэнню і развіццю СЭЗ;

пералік суб'ектаў гаспадарання, дзеючых у плануемай СЭЗ.

**Артыкул 9. Парадак прадстаўлення і разгляду прапановы аб стварэнні СЭЗ**

Прапановы аб стварэнні СЭЗ з прыкладаннем дакументаў, указаных у артыкуле 8 гэтага Закона, а таксама заключэнне Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб мэтазгоднасці стварэння СЭЗ уносяцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Рашэнне аб стварэнні СЭЗ прымаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у форме ўказа.

**Артыкул 10. Палажэнне аб СЭЗ**

У адпаведнасці з указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб стварэнні СЭЗ і гэтым Законам Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвярджае палажэнне аб СЭЗ.

У палажэнні аб СЭЗ указваюцца назва СЭЗ, тэрмін, на які яна ствараецца, мэты стварэння і задачы СЭЗ, асаблівасці прававога рэжыму ў дадзенай СЭЗ, структура і кампетэнцыя органаў кіравання і кантролю ў СЭЗ, парадак іх узаемаадносінаў з іншымі дзяржаўнымі органамі і суб'ектамі гаспадарання, якія дзейнічаюць у СЭЗ.

***ГЛАВА 3. Кіраванне СЭЗ***

**Артыкул 11. Органы і агульныя прынцыпы кіравання**

Органы мясцовага кіравання і самакіравання адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак на тэрыторыі СЭЗ:

ажыццяўляюць свае канстытуцыйныя паўнамоцтвы ў поўным аб'ёме;

ажыццяўляюць іншыя прадугледжаныя заканадаўствам паўнамоцтвы, за выключэннем выпадкаў, калі такія паўнамоцтвы ў адпаведнасці з гэтым Законам і палажэннем аб адміністрацыі СЭЗ ажыццяўляюцца адміністрацыяй СЭЗ;

могуць дэлегаваць адміністрацыі СЭЗ свае асобныя паўнамоцтвы на ўвесь тэрмін яе дзейнасці або на менш працяглы час.

На тэрыторыі СЭЗ дзейнічае адміністрацыя СЭЗ у межах кампетэнцыі, вызначанай гэтым Законам, палажэннем аб адміністрацыі СЭЗ і іншым заканадаўствам аб СЭЗ.

Каардынацыя і агульны кантроль за дзейнасцю адміністрацыі СЭЗ ажыццяўляюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У мэтах гарманічнага спалучэння рэспубліканскіх і мясцовых інтарэсаў можа ствараца наглядальны савет СЭЗ, у састаў якога ўваходзяць прадстаўнікі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, а таксама глава адміністрацыі СЭЗ. Наглядальны савет СЭЗ дзейнічае на падставе палажэння, якое зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Кіраўніцтва дзейнасцю адміністрацыі СЭЗ ажыццяўляецца кіраўніком адміністрацыі СЭЗ.

Кіраўнік адміністрацыі СЭЗ назначаецца і вызваляецца ад пасады Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

У сваёй дзейнасці адміністрацыя СЭЗ падсправаздачна Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Пры неабходнасці дапускаецца стварэнне агульнай адміністрацыі для некалькіх СЭЗ.

**Артыкул 12. Правы і абавязкі адміністрацыі СЭЗ**

Адміністрацыя СЭЗ у межах сваёй кампетэнцыі мае права:

прымаць удзел у распрацоўцы праграм эканамічнага і сацыяльнага развіцця адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак і праектаў мясцовых бюджэтаў;

ажыццяўляць дзяржаўную рэгістрацыю ўсіх суб'ектаў гаспадарання ў СЭЗ, за выключэннем банкаў і страхавых арганізацый;

рэгістраваць у якасці рэзідэнтаў СЭЗ банкі і небанкаўскія фінансавыя арганізацыі, іх філіялы, а таксама страхавыя арганізацыі і іх філіялы, якія прайшлі рэгістрацыю за межамі СЭЗ, у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

атрымліваць ад рэзідэнтаў СЭЗ устаноўленыя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь статыстычныя справаздачныя даныя аб іх дзейнасці;

адбіраць і прадастаўляць у парадку, устаноўленым заканадаўствам, зямельныя ўчасткі, якія знаходзяцца ў межах СЭЗ, перадаваць іх у арэнду рэзідэнтам СЭЗ і ажыццяўляць кантроль за выкарыстаннем зямельных участкаў;

распараджацца перададзенай дзяржаўнай маёмасцю;

вызначаць памер арэнднай платы за зямлю, прыродныя рэсурсы, а таксама памяшканні, будынкі і збудаванні;

прадстаўляць інтарэсы рэзідэнтаў СЭЗ у адносінах з рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання і органамі мясцовага кіравання і самакіравання;

уносіць ва ўстаноўленым парадку прапановы па распрацоўцы праектаў нарматыўных прававых актаў;

размяркоўваць і кантраляваць расходаванне сродкаў на развіццё інфраструктур СЭЗ і ахову навакольнага асяроддзя;

уносіць прапановы ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб змяненні палажэння аб СЭЗ;

уносіць прапановы ў мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы аб змяненні межаў СЭЗ;

ствараць па ўзгадненню з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь фонд развіцця СЭЗ;

ажыццяўляць іншыя паўнамоцтвы, прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Адміністрацыя СЭЗ абавязана:

сумесна з органамі мясцовага кіравання і самакіравання арганізоўваць работу па развіццю СЭЗ;

захоўваць патрабаванні гэтага Закона і іншага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, у тым ліку палажэнне аб СЭЗ, палажэнне аб адміністрацыі СЭЗ;

кантраляваць выкананне рэзідэнтамі СЭЗ палажэння аб СЭЗ, дагавора аб умовах дзейнасці ў СЭЗ, заканадаўства аб ахове навакольнага асяроддзя і іншага заканадаўства Рэспублікі Беларусь;

аказваць садзейнічанне ў рабоце мытных, кантралюючых і праваахоўных органаў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 13. Бюджэт СЭЗ**

СЭЗ мае самастойны бюджэт, які ўваходзіць у састаў рэспубліканскага бюджэту асобным радком. Адміністрацыя СЭЗ штогод распрацоўвае праект бюджэту СЭЗ на адпаведны фінансавы год і прадстаўляе Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь для ўключэння яго ў праект Закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год.

**Артыкул 14. Фінансаванне стварэння і развіцця СЭЗ**

Фінансаванне стварэння і развіцця СЭЗ, у тым ліку вытворчай, транспартнай і іншай інфраструктуры, ажыццяўляецца за кошт сродкаў бюджэту СЭЗ, які фарміруецца з рэспубліканскага бюджэту і іншых крыніц.

У мэтах фінансавання інфраструктуры СЭЗ, правядзення рэкламна-выдавецкай дзейнасці, стымулявання аплаты працы работнікаў адміністрацыі СЭЗ і іншых напрамкаў можа ствараца фонд развіцця СЭЗ, кіраванне якім ажыццяўляецца саветам фонду. Крыніцы фарміравання фонду развіцця СЭЗ, напрамкі яго расходавання, структура і паўнамоцтвы савета фонду вызначаюцца ў палажэнні аб фондзе развіцця СЭЗ, якое ўзгадняецца з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Памер аплаты працы работнікаў адміністрацыі СЭЗ, у тым ліку кіраўніка адміністрацыі СЭЗ, вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15. Дзяржаўны кантроль за СЭЗ**

Дзяржаўны кантроль за СЭЗ ажыццяўляецца Камітэтам дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, а таксама ўпаўнаважаным на тое Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання або спецыяльнай камісіяй у парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

***ГЛАВА 4. Рэгуляванне падатковых, мытных, валютна-фінансавых, працоўных адносінаў у СЭЗ***

**Артыкул 16. Падаткі ў СЭЗ**

Падаткі ў СЭЗ збіраюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Віды падаткаў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі СЭЗ, стаўкі падаткаў і асаблівасці льготнага падаткаабкладання ўстанаўліваюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь ці па яго даручэнню — Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Падаткі, якія выплачваюцца на тэрыторыі СЭЗ, залічваюцца ў даходы рэспубліканскага бюджэту, мясцовых бюджэтаў і бюджэт СЭЗ у адпаведнасці з палажэннем аб СЭЗ.

Кантроль за выкананнем падатковага заканадаўства рэзідэнтамі СЭЗ ажыццяўляецца падатковымі органамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 17. Асаблівасці мытнага рэгулявання ў СЭЗ**

Тэрыторыя СЭЗ з'яўляецца часткай мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. У адносінах да збірання мытных пошлін, падаткаў і прымянення мераў эканамічнай палітыкі СЭЗ можа разглядацца як СЭЗ, якая знаходзіцца ў мытным рэжыме свабоднай мытнай зоны.

Пры ўвозе замежных і айчынных тавараў на тэрыторыю свабоднай мытнай зоны падаткі, мытныя плацяжы, за выключэннем збораў за мытнае афармленне, не збіраюцца і меры эканамічнай палітыкі не прымяняюцца.

Пры ўвозе тавараў з тэрыторыі свабоднай мытнай зоны на астатнюю частку мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь падаткі, мытныя плацяжы збіраюцца і меры эканамічнай палітыкі прымяняюцца ў залежнасці ад паходжання тавараў.

Пры вывазе з тэрыторыі СЭЗ тавараў, якія паходзяць з тэрыторыі СЭЗ, за межы Рэспублікі Беларусь падаткі, мытныя плацяжы, за выключэннем збораў за мытнае афармленне, не збіраюцца і меры эканамічнай палітыкі не прымяняюцца. У адносінах да тавараў, якія не паходзяць з тэрыторыі СЭЗ, збіранне падаткаў, мытных плацяжоў і прымяненне мераў эканамічнай палітыкі пры іх вывазе з тэрыторыі СЭЗ за межы Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Тэрыторыя свабоднай мытнай зоны можа не супадаць з тэрыторыяй СЭЗ і вызначацца ўнутры СЭЗ адміністрацыяй СЭЗ па ўзгадненню з Дзяржаўным мытным камітэтам Рэспублікі Беларусь.

Іншыя пытанні мытнага рэгулявання, уключаючы мытнае афармленне і мытны кантроль у СЭЗ, рэгулююцца мытным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь з улікам асаблівасцеў, прадугледжаных заканадаўствам аб СЭЗ.

**Артыкул 18. Фінансавае і валютнае рэгуляванне ў СЭЗ**

Для разлікаў у СЭЗ можа выкарыстоўвацца нацыянальная валюта Рэспублікі Беларусь і канверсоўная валюта замежных дзяржаў у парадку, які вызначаецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь.

Асаблівасці фінансавага і валютнага рэгулявання, ажыццяўлення банкаўскай і страхавой дзейнасці на тэрыторыі СЭЗ вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 19. Улік і справаздачнасць у СЭЗ**

Рэзідэнты вядуць улік і справаздачнасць у СЭЗ у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 20. Працоўныя адносіны ў СЭЗ**

Працоўныя адносіны ў СЭЗ рэгулююцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб працы.

Прыцягненне замежнага інжынерна-тэхнічнага і кіраўніцкага персаналу рэзідэнтамі СЭЗ не абмяжоўваецца.

У СЭЗ не дапускаецца пагаршэнне сацыяльна-працоўных умоў работы і ўмоў занятасці для работнікаў, якія з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, у адносінах да ўмоў, устаноўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

***ГЛАВА 5. Дзяржаўныя гарантыі інвестарам***

**Артыкул 21. Дзяржаўныя гарантыі інвестарам у СЭЗ**

На тэрыторыі СЭЗ:

гарантуюцца замацаваныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь правы і свабоды асобы;

не дапускаюцца дыскрымінацыя і іншыя незаконныя абмежаванні праваў суб'ектаў гаспадарання;

не дапускаюцца прымусовыя нацыяналізацыя, рэквізіцыя ці аналагічныя па свайму дзеянню меры, за выключэннем часовага спынення вывазу інвестуемай уласнасці з тэрыторыі СЭЗ, да пагашэння інвестарам запазычанасці па абавязацельствах.

На замежных інвестараў у СЭЗ распаўсюджваецца сістэма дзяржаўных гарантый аховы інвестыцый, якая прадугледжана заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб замежных інвестыцыях. Дзяржава гарантуе замежным інвестарам СЭЗ права на вяртанне сваёй долі ў маёмасці прадпрыемства па рэшткаваму кошту, а таксама перавод прыналежных ім сум даходаў, у тым ліку і ў замежнай валюце, атрыманых ад укладзеных у зону інвестыцый, за межы СЭЗ і Рэспублікі Беларусь.

Дзяржава не нясе адказнасці па абавязацельствах рэзідэнтаў СЭЗ, а рэзідэнты — па абавязацельствах дзяржавы.

***ГЛАВА 6. Ліквідацыя СЭЗ***

**Артыкул 22. Ліквідацыя СЭЗ**

СЭЗ лічыцца ліквідаванай пасля заканчэння тэрміну, на які яна была створана, калі не будзе прадоўжаны ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*(Частка другая не прыводзіцца як не ўступіўшая ў сілу.)**

Для рашэння маёмасных і іншых пытанняў, звязаных з ліквідацыяй СЭЗ, урэгулявання адносінаў паміж органамі кіравання, якія дзейнічалі і дзейнічаюць на тэрыторыі СЭЗ, суб'ектамі гаспадарання і іншымі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь стварае ліквідацыйную камісію і зацвярджае парадак ліквідацыі СЭЗ.

Суб'екты гаспадарання, якія дзейнічалі ў СЭЗ на момант яе ліквідацыі, могуць спыніць сваю дзейнасць або прадоўжыць яе на агульных падставах без дадатковай рэгістрацыі (перарэгістрацыі) у парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым яны маюць пераважнае права і прадугледжаныя заканадаўствам ільготы на атрыманне статусу рэзідэнта іншай СЭЗ на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

***ГЛАВА 7. Заключныя палажэнні***

**Артыкул 23. Уступленне ў сілу гэтага Закона**

Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам яно прымяняецца ў той частцы, у якой не супярэчыць гэтаму Закону, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 24. Прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Законам**

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, падпарадкаванымі Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, іх нарматыўных прававых актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*7 снежня 1998 г., г. Мінск.*
*№ 213—З*

---

* *Частка другая артыкула 22 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодных эканамічных зонах» не ўступіла ў сілу ў адпаведнасці з часткай восьмай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.*

## Як аформіць зямельны ўчастак?

*Паважаная рэдакцыя! Прашу адказаць на маё пытанне.*

*Я атрымала ўчастак для будаўніцтва індывідуальнага жылога дома, але як яго лепей аформіць, не ведаю. Ва ўласнасць ці пажыццёвае карыстанне? Ці магчыма пераафармленне дакументаў на дом з цягам часу з пажыццёвага карыстання ва ўласнасць?*

**З павагай Н. Р. БАРАЎКОВА,** г. Мінск.

Ваша пытанне было накіравана ў Дзяржаўны камітэт па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі РБ. Начальнік аддзела прававога рэгулявання зямельных адносінаў і кантролю за выкарыстаннем і аховай зямель Пётр Аляксандравіч Бараўкоў зазначыў, што пытанне аб форме валодання зямлёй кожны грамадзянін вырашае самастойна. З атрыманнем участка ва ўласнасць гаспадар мае права распараджацца ім па свайму меркаванню: прадаць, падарыць, закласці ў банк. Калі ўчастак знаходзіцца ў пажыццёвым карыстанні, ён можа быць перададзены нашчадкам, закладзены ў банк пад крэдыт, але не можа быць аб'ектам здзелкі куплі-продажу. Калі аформіце ўчастак у пажыццёвае валоданне, перашкод у пераафармленні дакументаў на яго і, адпаведна, на дом (ужо ва ўласнасць) праз нейкі час не будзе. Заяву на афармленне дакументаў неабходна падаваць у выканаўчы і распарадчы орган па месцы знаходжання зямельнага ўчастка.

Дададзім, што грамадзяне, якія маюць у карыстанні ўчастак, што быў прадастаўлены да 16 чэрвеня 1993 года, маюць права набываць яго па льготнай цане. Гэтая норма дзейнічае да 1 студзеня 2000 года. Па льготнай цане набываюць ва ўласнасць участкі для будаўніцтва жылога дома грамадзяне, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Ва ўсіх астатніх выпадках зямельныя ўчасткі набываюцца ва ўласнасць па нарматыўнай цане.

## Ільготы на камунальныя паслугі

*Якія катэгорыі грамадзян маюць права на льготы па аплаце за камунальныя паслугі?*

**К. СІМЯНЕЦ,** г. Брэст.

Як паведамілі «Звяздзе» ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ільготы па аплаце за паслугі галіны мае шэраг катэгорый грамадзян. Умовы іх прадастаўлення і больш падрабязны пералік, напэўна, не змясціўся б і на газетнай старонцы, таму назавём «самыя-самыя»:

— інваліды Вялікай Айчыннай вайны. Сюды ўваходзяць таксама інваліды з ліку партызан, працоўныя, служачыя адпаведных катэгорый, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва, захворвання, што былі атрыманы ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў раёне ваенных дзеянняў;

— інваліды з ліку ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва, захворвання, што былі атрыманы пры абароне Айчыны ці выкананні абавязкаў ваеннай службы (тут маюцца на ўвазе перш за ўсё так званыя «лакальныя войны»);

— сем'і загінуўшых ваеннаслужачых, партызан, падпольшчыкаў;

— удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, што прызнаны інвалідамі ў выніку агульнага захворвання, працоўнага калецтва.

— грамадзяне, што працавалі падчас блакады Ленінграда на прадпрыемствах, ва ўстановах, у арганізацыях горада, якія ўзнагароджаны медалём «За абарону Ленінграда», прызнаныя інвалідамі ў выніку агульнага захворвання, працоўнага калецтва, іншых прычын;

— Героі Савецкага Саюза, асобы, якія ўзнагароджаны ордэнам Славы трох ступеняў.

## СЕЗОННЫЯ ПАРАДЫ

# Пара падмазваць пяткі




Прагулкі па снежнай бруднай кашы, асабліва ў горадзе, звычайна прыводзяць да таго, што чаравікі нашы прамакаюць, а пасля высыхання пакрываюцца белымі разводамі, якія застаюцца нават калі пачысціць іх ваксай. Каб пазбегнуць усіх гэтых непрыемнасцяў, скарыстайце стары выпрабаваны спосаб. У закрытай пасудзіне растапіце 100 г звычайнага свінога сала, прасачыце, каб яно не гарэла. На палачку наматайце ваты і, акунаючы яе ў тлушч, які кіпіць, хутка прамажце ніз абутку, асаблівую ўвагу звярніце на ранты і швы. Пасля таго, як нанесены слой падсохне, пачысціце чаравікі шчоткай.

Адной змазкі хапае прыблізна на месяц. Пры гэтым можна спакойна абыходзіцца без ваксы. Калі глянец пачне цямнець, папрацуйце зноў шчоткай — і чаравікі стануць як новыя.

## РАЗАМ З ДЗЕЦЬМІ

# Паклапаціцеся пра птушак



**Палегчыць долю птушак, якіх нямала застаецца ў нас зімаваць, вы зможаце, калі змайструеце ім кармушкі. Небяспека зімоўкі заключаецца не столькі ў моцных маразах, колькі ў бяскорміцы.**

З чатырох планак збіце спачатку прамавугольны каркас і замацуйце яго на драўляным бруску з выразам. Для трываласці забіце ўнутры каркаса драўляны кубік. Затым змайструйце з чатырох планак і адрэзка фанеры прамавугольнай формы скрынку, якая будзе служыць птушкам «сталом», і прымацуйце яе да каркаса.

Накрыўку неабходна змайстраваць так, каб верхняя планка крыху перакрывала ніжнюю, тады кроплі будуць сцякаць з даху (гл. мал. б.).

З адрэзка ствала старога сухога дрэва можна вырабіць кармушку, паказаную на мал.в. Верхнюю частку спілоўваюць наўскасяк, выдзёўбваюць нутро, пакідаючы «падлогу», і выразаюць знізу адтуліну для птушак. Зверху прымацоўваюць накрыўку.

-1418-

## ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

# Харчаванне састарэлых

*«Ці ёсць розніца ў харчаванні састарэлых людзей? Калі так, — то ці не маглі б вы паведаміць аб гэтых асаблівасцях, даць карысныя парады?»*

**Н. Саланевіч**

Адна з найбольш агульных рэкамендацый — панізіць каларыйнасць. Робіцца гэта за кошт памяншэння ўжывання тлушчаў і вугляводаў (хлеб, макаронныя вырабы, крупы, прысмакі). Адначасова неабходна павялічыць спажыванне агародніны і садавіны, якія з'яўляюцца добрай крыніцай вітамінаў і клятчаткі, што забяспечвае нармальную работу кішэчніка.

У харчаванне пажылых людзей трэба ўключаць розныя вінегрэты і салаты, запраўленыя алеем. З круп перавагу аддаваць грэцкім і аўсяным. Спажыванне алеяў неабходна павялічыць, а спажыванне жывёльных тлушчаў — скараціць.

Масла часцей замяняць смятанай, больш ужываць малочныя прадукты — тварог, сыр, кіслае малако, кефір. У іх утрымліваецца малочны бялок, які лёгка засвойваецца арганізмам, і вялікі набор мінеральных рэчываў і вітамінаў. Не трэба адмаўляцца ад рыбных страў і яек (1-2 яйкі ў тыдзень).

Не рэкамендуецца спажываць больш за адну мясную страву ў дзень.

Прытрымліваючыся гэтых парад, вы лёгка зможаце палепшыць свой настрой, здароўе, а то і вярнуць маладосць.

## САКРЭТЫ КУХНІ

# Шклянка выдатнага чаю

**Аналізуючы вопыт прыгатавання бездакорнага чаю, знаўцы выдзяляюць не менш, чым адзінаццаць абавязковых правілаў. Некаторыя з іх прапануем узяць на заметку.**

❑ Чай павінен быць індыйскім або цэйлонскім. Кітайскі чай валодае якасцямі, якімі ў цяперашні час нельга пагарджаць, — ён танны, і яго можна піць без малака, але ён недастаткова бадзёрыць. Ад кітайскага чаю не адчуеш сябе больш разумным, адважным ці проста аптымістычным.

❑ Чай неабходна заварваць пакрысе, у заварным чайніку (фарфоравым або керамічным). Чай, завараны ў вялікай ёмістасці, звычайна нясмачны.

❑ Чайнік трэба папярэдне падагрэць, але не пры дапамозе апалосквання кіпенем, а патрымаць заварнік на гарачай пліце ці над парай.

❑ Чай павінен быць моцным. Адна шклянка моцнага чаю лепш, чым дваццаць шклянак слабага.

❑ Чай варта класці непасрэдна ў заварны чайнік. Ніякіх пакецікаў і мяшочкаў, ніякіх іншых «путаў» для чаю. У некаторых краінах на чайнік падвешваюць сітца, каб выдаліць чаінкі, якія лічацца нібыта шкоднымі. На самай справе чайны ліст можна ўжываць без усялякай шкоды для здароўя. Калі чай не плавае свабодна ў чайніку, ён ніколі як мае быць не заварыцца.

❑ Неабходна ўліваць заварку ў кіпень, а не наадварот.

❑ Піць чай трэба з высокай цыліндрычнай формы пасудзіны, а не з плоскай і плыткай, у якой ён хутка астывае.

❑ Нарэшце, чай нельга піць з цукрам. Чаю належыць быць горкім. Паспрабуйце піць чай без цукру хаця б на працягу двух тыдняў, і вам больш ніколі не захочацца псаваць смак чаю, падсалоджваючы яго.



-1419-

# БЛІЗНЯТЫ І РАКІ, НЕ СПЯШАЙЦЕСЯ МЯНЯЦЬ МЕСЦА ВАШАЙ РАБОТЫ!

КАЗЯРОГА чакае бурны дзелавы тыдзень, насычаны падзеямі і здзяйсненнямі, прадказвае вядомы індыйскі астролаг Джагджыт Упал. Вельмі верагодныя падпісанне важнага кантракта і паездка за мяжу для адкрыцця там новага офіса. Цудоўнымі будуць у вас адносіны з роднымі і каханым чалавекам.

Нябёсы рэкамендуюць ВАДАЛЕЮ не аддаляцца ад бягучых спраў, а займацца імі без адпачынку. Не спяшайцеся падпісваць важныя дакументы. Вы рызыкуеце ў спешцы дапусціць памылкі, якія потым будуць дорага каштаваць. Пісьменнікаў і журналістаў чакае творчая камандзіроўка, а пажылых Вадалеяў важная фінансавая аперацыя па інвестыцыі грошай у нерухомасць, якая спатрэбіцца на пенсіі.

РЫБАМ не давядзецца аддаляцца ад родных берагоў, а трэба будзе заставацца ўвесь тыдзень у офісе для ўзмоцненай і скрупулёзнай работы. Напярэдадні выхадных надыдзе зорны час Рыб творчых прафесій, якія набудуць вядомасць дзякуючы ўласным тварэнням. Прадстаўніцы цудоўнага полу разгорнуць бурную дзейнасць і апынуцца ў цэнтры ўсеагульнай увагі.

Размяшчэнне зорак спрыяе новым пачынанням АВЕНАЎ. Вы можаце з поспехам пачынаць рэалізацыю даўно выношваемых дзелавых планаў, укладваць грошы ў нерухомасць і адпраўляцца ў дзелавое падарожжа. Другая палова тыдня добрая для здзяйснення задумак аб прасоўванні ў кар'еры, а таксама набыцця нерухомасці. Астролаг раіць не забывацца на здароўе і пры ўсёй занятасці знаходзіць час для адпачынку.

Больш аптымізму ў адносінах да перспектыў бізнесу стануць выказваць ЦЯЛЬЦЫ. Бягучая работа абяцае вам прыток грошай, прасоўванне па службе і больш вясёлы погляд на ўласную будучыню. Вы возьмеце добры старт у ажыццяўленні чарговага праекта, але для яго выканання давядзецца спачатку шмат папрацаваць. А гэта праца, як кажуць у Індыі, дабавіць і ў галаве, і ў кашальку.

Расчараванне вынікамі сваёй дзейнасці давядзецца адчуць БЛІЗНЯТАМ. Але лепш закончыце пачатае і не думайце аб пераходзе на іншую работу. Цяжкасці хутка абмінуць вас бокам, а ўзнагарода за зробленае не прымусіць сябе чакаць. Некаторым з вас настаў час шукаць дадатковыя крыніцы даходу.

Заклапочаны рознымі асабістымі праблемамі будзе РАК. Некаторыя апынуцца ва ўладзе жадання кінуць бягучыя справы і перабрацца на новае месца работы. Але не вельмі спяшайцеся, бо пасля давядзецца аб гэтым пашкадаваць. Рознагалоссі з кіраўніцтвам хутка скончацца мірам, а вось праблемы з партнёрамі па бізнесу ў вас толькі пачынаюцца. Яны могуць прывесці да поўнага разрыву, што і прымусіць вас нервавацца і згубіць добры настрой. Не давайце яму выхаду, а лепш трымайце сябе ў руках і з падначаленымі, і з роднымі.

Планеты маюць намер падарыць ІЛЬВАМ шмат энергіі і духоўных сіл, якія трэба будзе выкарыстаць з розумам. Пачынайце выконваць новыя задумкі, толькі старанна абдумаўшы будучыя крокі. Раней пачаты праект хутка прынясе выдатныя дывідэнды. Непрыемнасці будуць па-ранейшаму прыносіць на гэтым тыдні адносіны з роднымі, і тут давядзецца набрацца цярпення.

Сканцэнтравацца на выкананні бягучай задачы трэба будзе ДЗЕВЕ. Усякае прамаруджванне з яе выкананнем абяцае значныя фінансавыя страты. Бізнесменам давядзецца пачакаць тыдзень з пачаткам новага праекта з-за няхваткі сродкаў на яго выкананне. Дзяржслужачым кіраўніцтва даручыць важнае заданне, абнадзеіўшы ў атрыманні розных узнагарод і прэмій. Студэнтаў будзе не адарваць ад рабочага стала — наперадзе экзамены. Поспех чакае асабліва тых, хто вывучае дакладныя навукі, юрыспрудэнцыю і рыхтуецца пайсці ў камерсанты. Але пры ўсіх справах і клопатах беражыце здароўе, а астатняе дадасца.

Думкі і разважанні ШАЛЯЎ атрымаюць адабрэнне тых, хто побач, і партнёраў па бізнесу. Пры іх падтрымцы вы выйграеце конкурс на важны заказ, выкананнем якога і зоймецеся ў бліжэйшы час. Вам трэба прыдумаць, чым аддзячыць сваю другую палавіну за стараннасць у падтрыманні агню ў дамашнім ачагу і стварэнні ўмоў для вашага адпачынку. За падрастаючым пакаленнем сачыце пільным вокам, інакш чакайце ад яго «сюрпрызаў».

З палёгкай уздыхнуць СКАРПІЁНЫ, у якіх наперадзе абсалютна спрыяльны тыдзень. Поспехі ў бізнесе прынясуць шмат выгадных заказаў. У іх выкананні прадастаўце больш свабоды падначаленым, якія вас не падвядуць. Зоркі заахвочваюць паездку з каханым чалавекам на адпачынак ці лепш на курорт.

Прыліў сіл адчуе СТРАЛЕЦ, што будзе вельмі дарэчы. Дадатковая энергія дапаможа перадолець цяжкасці ў ажыццяўленні дзелавога праекта і выканаць яго да патрэбнага тэрміну. Любая са здзейсненых вамі на гэтым тыдні спраў, мяркуе астролаг, абавязкова прынясе задавальненне, а некаторыя здзяйсненні і немалы даход.

**Леанід КОТАЎ (ІТАР—ТАСС).**

*г. Дэлі.*

## САЛОН ПРЫГАЖОСЦІ

# Справа ў капелюшы

**Апошнім часам усё большую папулярнасць сярод жанчын набываюць капелюшы з футра. І не проста бясполыя бясформенныя вушанкі, а менавіта Іх Вялікасць Капелюшы.**

Прымяраючы капялюш, крытычна паглядзіце ў люстэрка, і не толькі на твар, а агледзьце сябе з усіх бакоў: ці адпавядае капялюш вашаму ўзросту, ці падыходзіць да вашай фігуры, формы твару, да адцення скуры і колеру валасоў, да адзення, з якім вы будзеце яго насіць.

Жанчынам нізкага росту не падыходзяць капелюшы з вялікімі палямі. Але і маленькія шапачкі не заўсёды добрыя. Калі, напрыклад, у вас, поўны круглы твар, то вам нельга насіць маленькія капялюшыкі, якія шчыльна прылягаюць і прыкрываюць лоб. Калі ж капялюшык надзяваецца крыху набок і закрывае толькі частку лба, купляйце. Вам падыдуць і высокія капелюшы, яны быццам бы падаўжаюць твар.

Пры вузкім твары лепш насіць капелюшы, якія закрываюць лоб, прычым такі капялюш не варта ссоўваць на патыліцу: тады ён губляе сваё хараство.

Пры доўгім носе рэкамендуецца капялюш, які навісае над ілбом, пры кірпатым носе — адкрыты капялюш.

Бледнатварым неабходна пазбягаць галаўных убораў пяшчотных і пастэльных тонаў. У большасці выпадкаў бландзінкам не падыходзіць жоўты і бэжавы колеры. Рыжаватым жанчынам рэкамендуецца пазбягаць чырвоных тонаў. Іх колер — шэры, зялёны, сіні, крэмавы і чорны.

Цёмнавалосыя жанчыны могуць насіць капелюшы любога колеру, зразумела, улічваючы колер скуры і тып адзення.

Прычоска павінна таксама гарманіраваць з фасонам капелюша. Калі вам падышоў капялюш, які пакідае адкрытай патыліцу, нельга насіць гладка зачасаныя ўніз валасы. Да такога капелюша лепш падыдзе вялікі пучок або валік. Калі ж капялюш надзяваецца на патыліцу, тады лепш кароткая стрыжка.

І нарэшце, футравы берэт — вельмі зручны галаўны ўбор і заўсёды модны. Яго могуць насіць усе: і дзяўчаты, і пажылыя жанчыны, нізкія і высокія, поўныя і худыя.

## ГІГІЕНА

# Хавайце сваю расчоску далей

Гэта не жарт! Калі ўзяць чужую зубную шчотку мала каму прыйдзе ў галаву, то расчоску, якая ляжыць каля люстэрка ў ваннай ці калідоры, можа, не задумваючыся, выкарыстаць любы, чаго рабіць нельга. У нас ва ўсіх на валасах жывуць свае грыбкі і мікробы. Нават адмерлыя лускавінкі з чужой галавы могуць выклікаць моцную алергію.

Лепшымі лічацца расчоскі з натуральных матэрыялаў, скажам, з драўніны. Пластмаса электрызуе валасы, аддаючы галаве лішнія зарады. Жалезныя зубы разбураюць цыбулінкі, нарушаюць структуру валасоў, драпаюць скуру. Добрыя шчоткі з натуральным шчаціннем — яны больш гігіенічныя, правільна масіруюць галаву.

Але захапляцца масажам не варта, асабліва тым, у каго не вельмі густыя ды яшчэ аслабленыя валасы. Расчэсвайцеся не часцей, чым таго вымагае неабходнасць.

Рана ці позна паміж зубамі расчоскі асядае шэра-белы налёт. Гэта сухія лускавінкі скуры, сальны тлушч, змешаны з рэшткамі мыйных сродкаў, лаку для валасоў. Вымыйце расчоску гарачай вадой з мылам, спецыяльнай шчоткай прайдзіцеся паміж усімі зубамі.

Перыядычна расчоскі неабходна мяняць, тым болей тыя, у якіх зламаны хаця б адзін зубец. Па-першае, хутка выпадуць і астатнія, па-другое, пры расчэсванні зламанай расчоскай вы будзеце нераўнамерна масіраваць галаву, парушаючы натуральны прыток крыві.

-1420-

## МУЖЧЫНА Ў ДОМЕ

# Награвальнік для склепа







**Увосень рабіны быццам агнём палалі ад мноства ягад. Па народных прыметах гэта прадвяшчала суровую зіму. Так яно і здарылася: моцныя маразы ўдарылі ўжо ў лістападзе. Неабходна было сур'ёзна рыхтавацца да захавання ўраджаю. Напэўна, вы так і зрабілі.**

**Прапануем адзін з магчымых варыянтаў абагравання невялікага склепа.**

У якасці награвальніка найбольш прымальнымі лічацца асвятляльныя лямпы напальвання. Аднак іх неабходна зацямніць, бо святло стымулюе вочкі агародніны, якія спяць, да прарастання, г.зн. да яе псавання. Корпус награвальніка можна зрабіць са старога вядра, у дне якога ўстанавіць патроны для трох лямпачак (гл. мал.). У дне і накрыўцы трэба прарабіць адтуліны для таго, каб праходзіла паветра. Да накрыўкі знізу прымацаваць экран, які будзе перакрываць вентыляцыйныя адтуліны ад святла лямпаў, але не перашкаджаць праходу паветра. Калі да вядра прыладзіць яшчэ і тры ножкі, атрымаецца цудоўны каларыфер. Ён зручны ў эксплуатацыі — для замены лямпаў дастаткова зняць накрыўку з вядра. Ды і патроны не пераграваюцца: лямпы ж размяшчаюцца вышэй за іх. Лямпы злучаюцца паралельна, што забяспечвае дастатковую надзейнасць награвальніка, бо тры 100-ватныя лямпы больш надзейныя, чым адна 300-ватная.

## РЫБАЦКІЯ ЗГАДКІ

# Імітацыя матыля

Аматары падлёднай лоўлі рыбы на блешню прывязваюць да кручка чырвоную шарсцяную нітачку. Пры яе дапамозе рыба бярэцца значна лепш, аднак гэты спосаб мае і недахопы. Акуні тузаюць за нітку і зрываюць яе з кручка, пры гэтым адбываюцца дарэмныя падсяканні. Пры нізкай тэмпературы і перамене месца лоўлі шарсцінка замярзае і ператвараецца ў ледзяны камяк.

Наш чытач з Любані В. Саланец прапануе замест ніткі скарыстаць матэрыял, які не абмярзае і не сцягваецца лёгка з кручка. Гэта невялікія кавалачкі (да 1 мм) ізаляцыі дроту чырвонага колеру. Маленькія трубачкі надзяваюцца адна за адной на кручок блешні. Апошні кавалачак павінен быць карычневага колеру. Гэта неабходна для таго, каб кручок нагадваў членістае цельца матыля, а карычневая трубачка будзе імітаваць яго галоўку. Пры майстраванні такога прыстасавання каля зазубрыны кручка трэба абавязкова пакінуць частку, не пакрытую ізаляцыяй.

Сваю блешню В. Саланец называе «залатой рыбкай». Яна мае два кручкі ў галаўной частцы. Абодва кручкі дэкарыруюцца кавалачкамі ізаляцыі. Блешня вельмі нагадвае рыбку, якая схапіла матыля ўпоперак.

Такая імітацыя дае выдатныя вынікі, рыба бярэцца добра і часта.



-1421-

## Суботнім вечарам

# КРЫЖАВАНКА «АНАГРАМЫ»

***У кожным слове-загадцы перастаўце літары месцамі і атрымайце новае слова-анаграму. Адгадайце прыведзеныя анаграмы і запішыце іх у клетачкі крыжаванкі.***

**Па гарызанталях:** 3. Верас. 4. Крысо. 6. Анчар. 9. Нататка. 11. Горан. 13. Атол. 14. Сіла. 15. Арган. 19. Акорд. 21. Гарачка. 22. Арфа. 24. Араб. 25. Полк. 26. Юкан. 27. Ірак. 29. Кант. 31. Савіцкі. 33. Марка. 35. Ласка. 39. Пост. 40. Карп. 42. Самка. 43. Палатка. 44. Парта. 45. Тарка. 46. Тушка.

**Па вертыкалях:** 1. Кардон. 2. Шыльда. 3. Лава. 5. Рука. 7. Саван. 8. Ачаг. 10. Атлант. 11. Ласо. 12. Траса. 16. Гармата. 17. Маркота. 18. Званіца. 20. Бакінка. 23. Рак. 24. Кат. 28. Вакзал. 30. Русак. 32. Полаг. 34. Атам. 36. Крот. 37. Палата. 38. Пастар. 39. Кокс. 41. Рака.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**

*Лагойскі раён.*

П З У М
Ы А Е Д
Ш І Р Ц

### Галаваломка

Ключык да яе разгадкі няцяжкі. Адшукайце яго і прачытайце патрыятычную прымаўку.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

*Клецкі раён.*

## Палічым па... 55

Калі ў клетках выдзеленага квадрата правільна пераставіць лікі, то пры складанні іх па ўсіх гарызанталях і па ўсіх вертыкалях атрымліваецца адзін і той жа вынік — 55. Адшукайце рашэнне гэтай задачы.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1 | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | = | 55 |
| 1 | 1 | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | = | 55 |
| 1 | 1 | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | = | 55 |
| 1 | 1 | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | = | 55 |
| 1 | 1 | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | = | 55 |
| 6 | 6 | 7 | 7 | 8 | 8 | 9 | 9 | 10 | 10 | = | 55 |
| 6 | 6 | 7 | 7 | 8 | 8 | 9 | 9 | 10 | 10 | = | 55 |
| 6 | 6 | 7 | 7 | 8 | 8 | 9 | 9 | 10 | 10 | = | 55 |
| 6 | 6 | 7 | 7 | 8 | 8 | 9 | 9 | 10 | 10 | = | 55 |
| 6 | 6 | 7 | 7 | 8 | 8 | 9 | 9 | 10 | 10 | = | 55 |
| = | = | = | = | = | = | = | = | = | = | | |
| 55 | 55 | 55 | 55 | 55 | 55 | 55 | 55 | 55 | 55 | | |

## ПЯТЫ — ЛІШНІ

З пяці прамавугольнікаў на малюнку чатыры падпарадкоўваюцца пэўнай логіцы размяшчэння, а пяты — не. Вызначце, калі ласка, які з прамавугольнікаў размясціўся не па правілах.

1 2 3 4 5

## Праверце, калі ласка, рашэнні

**КРЫЖАВАНКА (5 снежня). Па гарызанталях:** 5. Сапа. 7. Рака. 10. Какора. 11. Макака. 12. Бард. 13. Кола. 14. Мастак. 17. Напалм. 18. Шаталаў. 21. Шалік. 22. Кальмар. 24. Візіт. 26. Манаткі. 28. Гарбар. 31. Антэна. 34. Марш. 35. Дула. 36. Саната. 36. Рэлікт. 38. Така. 39. Капа. **Па вертыкалях**: 1. Бакас. 2. Чардаш. 3. Кракаў. 4. Скала. 5. Сабака. 6. Порт. 8. Акоп. 9. Акалот. 15. Кашавар. 16. Бальзак. 17. Накатка. 19. Талін. 20. Ліміт. 23. Арамат. 25. Манака. 26. Маштаб. 27. Індэкс. 29. Ранак. 30. Брак. 32. Тула. 33. Эліпс.

**ГАЛАВАЛОМКА (5 снежня).** Ключык да гэтай галаваломкі нескладаны. Таму мы прыводзім без каментарыяў толькі адказ на яе: «Ад прывычкі, як ад хваробы, цяжка пазбавіцца».

**ЗАГАДКА (5 снежня).** Загадка: «Без ног бяжыць, без вачэй глядзіць». Адказ: «Вада». Міні-чайнворд: явар, рака, адпал, лад. Адказ: «Вада».

**ШТО ЗАМЕСТ ПЫТАЛЬНІКА? (5 снежня).** Фігуркі з першага слупка атрымліваюцца накладаннем адну на адну фігурак з другога і трэцяга слупкоў. Улічваючы гэтыя абставіны, замест пытальніка трэба падставіць фігурку № 3.

**ГАЛАВАЛОМКА (21 лістапада)**. Ключык да яе няцяжкі — гэта лікі ў кружочках. Прымаўка чытаецца такая: «Пусты колас заўсёды нос кверху дзярэ». Вельмі слушная прымаўка!

**КРЫПТАГРАМА (21 лістапада).** Ключавыя словы ў ёй: авёс, «Крыжачок», цеплаход, Якубаў. Прымаўка была зашыфравана таксама слушная: «Жыццё даецца чалавеку для добрых спраў».

**ЧАЛАВЕЧКІ (21 лістапада).** У чалавечкаў ёсць тры формы абутку, тры розныя прычоскі, тры становішчы цела. Кожны такі прызнак сустракаецца ў гарызантальных радках і вертыкальных слупках толькі па аднаму разу. Улічваючы ўсе гэтыя акалічнасці, замест пытальніка трэба паставіць фігурку № 1.

## Песні народаў Беларусі

# Гава нагіла. Давайце весяліцца

**У другой палове 60-х гадоў песня «Гава нагіла», нібы імклівы вецер, уварвалася на савецкія прасторы.**

Разам з вакальнымі творамі, запісанымі ў выкананні амерыканскага спевака Дзіна Рыда маскоўскай фірмай «Мелодыя» на грампласцінку, яна ўвайшла ў студэнцкі асяродак, загучала ў маладзёжных інтэрнатах. Пераважная большасць слухачоў не ведала ні зместу песні, ні мовы, на якой яна спявалася, аднак была паланёная задорнай, адметна рытмічнай меладычнай музыкай, якая абуджала затоеную ў душы энергію, радавала, весяліла.

Яўрэйская народная песня «Гава нагіла», якую спяваюць у любы час — ці перадаючы радасць сустрэчы з сябрамі, ці пазбаўляючыся смутку, выконваюць розныя прафесійныя і самадзейныя вакальныя калектывы і артысты. Аднак ніводны з іх не пакідае такога мастацкавобразнага ўражання ад спеву, як вучнёўскі хор сярэдняй школы N 102 горада Мінска пад кіраўніцтвам Лізаветы Хаскінай. Іх аранжыроўка песні «Гава нагіла» лічыцца адной з лепшых на планеце. У гэтым — і майстэрства юных выканаўцаў, і непаўторная сіла песні.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

Allegro
E Dm
Га- ва на- гі- ла, га- ва на- гі- ла, га- ва на- гі- ла
1.E Dm E 2.E Dm E E
ве- ніс- ма- ха га- ва не- ра- не- на
Dm E Dm
га- ва не- ра- не- на, га- ва не- ра- не- на ве- ніс- ма- ха
Am Am
у- ру. у- ру а- хім, у- ру а- хім бе-леў са-ме-ах
Dm Dm E E E7 Am
у-ру а- хім бе-леў са-ме-ах у-ру а- хім бе- леў са-ме- ах

### Гава нагіла

**Яўрэйская народная песня**

*Гава нагіла, гава нагіла,*
*гава нагіла венісмха.*
*Гава неранена, гава неранена,*
*гава неранена венісмха.*
*Уру, уру ахім, уру ахім*
*белеў самеах.*

*Давайце весяліцца*
*Давайце весяліцца, давайце весяліцца,*
*давайце весяліцца і радавацца.*

*Давайце спяваць, давайце спяваць,*
*давайце спяваць і радавацца.*

*Абудзіцеся, абудзіцеся, браты,*
*абудзіцеся, браты,*
*сэрцам радасным.*

# У ЛЕС ПА ГРЫБЫ І ЯГАДЫ — З ЛІЦЭНЗІЯЙ

***На сённяшні дзень у Беларусі ліцэнзіі на нарыхтоўку і рэалізацыю дзікарослых грыбоў і ягад маюць больш як тысяча юрыдычных і фізічных асоб.***

Колькі ж чалавек штогод займаюцца гэтым бізнесам, скажам так, самастойна — сказаць, напэўна, немагчыма. Менавіта бізнесам, калі грыбы і ягады збіраюцца не столькі для ўласнага спажывання, колькі на продаж, каб зарабіць, між іншым, добрую капейчыну.

Улічваючы ўсю актуальнасць гэтай праблемы, нядаўна Савет Міністраў прыняў пастанову, якая, у прыватнасці, павінна накіраваць збор дзікарослых грыбоў і ягад у нашай краіне ў цывілізаванае рэчышча. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў аддзеле па кантролю за выкарыстаннем і аховай зямельных угоддзяў, лясоў і ландшафтаў Міністэрства прыроды і аховы навакольнага асяроддзя, у краіне ўводзіцца ліцэнзаванне на збор грыбоў і ягад як для юрыдычных, так і фізічных асоб. Як запэўніваюць спецыялісты, інтарэсы простых людзей гэтае новаўвядзенне не закране: без набыцця ліцэнзіі можна будзе штодзень збіраць на чалавека 30 кілаграмаў ягад і 20 кілаграмаў грыбоў. Калі хто збіраецца нарыхтоўваць больш, ужо трэба плаціць.

Ліцэнзія для фізічнай асобы тэрмінам на 5 гадоў каштуе 2 мінімальныя заробкі, для юрыдычных асоб на той жа тэрмін — 15 мінімальных заробкаў. Дарэчы, ліцэнзія дае права не толькі на нарыхтоўку, але і на вываз пазначанай прадукцыі (вядома, гэта датычыць найперш юрыдычных асоб). Праз ліцэнзаванне плануецца прыцягнуць дадатковыя грошы ў казну, частка якіх пойдзе на аднаўленне лясных угоддзяў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

Намесніка галоўнага ўрача нарачанскага санаторыя «Будаўнік» **Тамару Рыгораўну ЦЯЛЯК** віншуюць з юбілеем сваякі. Шчасця, здароўя, дабрабыту!

*Сардэчна віншуем з юбілеем любую матулю **Валянціну Міхайлаўну ШУСТ**.*

*Жадаем моцнага здароўя, ладу і дабрабыту ў сям'і, людской любові і павагі. Няхай цёплы агеньчык твайго дома доўга-доўга саграване нашы сэрцы.*

***Родныя,*** г. Мінск.

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

• **12 снежня 1586 года** памёр кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Стэфан Баторый, які, як піша беларускі гісторык Уладзімір Арлоў, у 1581 годзе ў адказ на пісьмовую абразу Іванам Грозным выклікаў яго на дуэль: «Вазьмі зброю, сядзь на каня, сыдзіся са мною ў абраны час, пакажы, які ты муж і як давяраеш праўдзе сваёй; рассудзім спрэчку нашу мячом, каб меней крыві хрысціянскай лілося...». Маскоўскі цар праўдзе сваёй, відаць, не зусім давяраў — адказ на прапанову паядынка атрыманы не быў.

• **12 снежня 1766 года** нарадзіўся расійскі гісторык і пісьменнік Мікалай Міхайлавіч Карамзін, аўтар «Гісторыі дзяржавы Расійскай», які лічыў, што любыя спробы абмежаваць імператарскую ўладу прывядуць да бунту і анархіі. Мікалай Карамзін — заснавальнік сентыменталізму ў рускай літаратуры.

• **12 снежня 1792 года** ў Вене 22-гадовы Людвіг ван Бетховен узяў першы ўрок музычнай кампазіцыі ў Франца Ёзэфа Гайдна, заплаціўшы за яго ў сучасным эквіваленце 19 цэнтаў. Гайдн сказаў, што такі вучань яго не падвядзе.

• **У гэты дзень у 1821 годзе** нарадзіўся славуты французскі пісьменнік Гюстаў Флабер, аўтар рамана «Мадам Бавары».

• **У гэты дзень у 1915 годзе** нарадзіўся Фрэнк Сінатра, легендарны амерыканскі спявак.

• **12 снежня 1928 года** нарадзіўся Чынгіз Айтматаў, кіргізскі пісьменнік.

• **12 снежня 1936 года** нарадзілася Іаланда Балаш, славутая румынская спартсменка, двухразовая алімпійская чэмпіёнка па скачках у вышыню. Чатырнаццаць разоў паляпшала сусветны рэкорд.

• **У гэты дзень у 1979 годзе** Палітбюро ЦК КПСС (Брэжнеў, Грамыка, Усцінаў і інш.) прыняло рашэнне аб уводзе савецкіх войскаў у Афганістан.

• **12 снежня 1994 года** пасля ўказа прэзідэнта Расіі аб выкарыстанні любых сродкаў для раззбраення незаконных узброеных фарміраванняў на тэрыторыі Чачні і ўводу ў гэтую закаўказскую рэспубліку федэральных войскаў, пачаліся шырокамаштабныя баявыя дзеянні. Сумныя вынікі вайны ўсім вядомыя, а праблема як была, так і засталася.

### Цікава

***Гонар многіх мужчын — барада таксама наносіць шкоду здароўю, сцвярджаюць французскія фізіёлагі і раяць збрыць яе, асабліва ў цёплы перыяд года.***

У час фізічнай працы ды яшчэ ў гарачыню галава любога барадача перагрваецца, сардэчная мышца працуе з вялікай нагрузкай, хутчэй зношваецца, што з часам прыводзіць да розных сардэчна-сасудзістых захворванняў. Многіх здзівіць і такое назіранне, зробленае французскімі спецыялістамі, якія, праўда, пакуль не далі яму тлумачэнне, — чым пышнейшая барада, тым большая будзе лысіна.

### Кажуць, што...

***Каб быць шчаслівым і здаровым, трэба нарадзіцца мужчынам, пры гэтым яшчэ мець белы колер скуры, вышэйшую адукацыю, дасягнуць росквіту сіл і пасяліцца ў прыгарадзе.***

Менавіта так характарызуюць амерыканскага «шчаслўчыка» эксперты Нацыянальнага цэнтра статыстыкі, якія нават такія вечныя катэгорыі, як шчасце і здароўе, падлічылі ў працэнтах.

44 тысячы дарослых жыхароў ЗША апісалі свой настрой за два тыдні, асабліва адзначаючы, ці адчувалі яны дэпрэсію, сум, пачуццё адзіноты, неспакой.

Чым менш скаргаў, вырашылі эксперты, тым больш шчаслівы і здаровы чалавек — гэтае няхітрае правіла і расставіла ўсё па сваіх месцах. З пачуццяў, якія авалодваюць белым амерыканцам, толькі 5,8 працэнта адносяцца да адмоўных эмоцый. Крыху часцей сумуюць і перажываюць белыя жанчыны — 7,2 працэнта. «Чорныя» думкі наведваюць у асноўным чарнаскурых мужчын і жанчын Амерыкі — 10,7 і 16,4 працэнта адпаведна.

### Такое жыццё

***Сарвігалава і забіяка ў дзяцінстве, мужчына, вырастаючы, усю энергію накіроўвае на заваяванне становішча ў грамадстве, любімай жанчыны, матэрыяльнага дабрабыту.***

Ён заўсёды рвецца ў бой, хоча быць у цэнтры падзей, у адрозненне ад жанчыны, для якой, як правіла, галоўнае — звіць утульнае гняздо і жыць у ім ціхім сямейным жыццём. Вучоныя высветлілі прычыну такіх адрозненняў: у мужчынскім арганізме у 10 разоў больш, чым у жаночым, выпрацоўваецца гармону тэстастэрону, які «адказвае» за агрэсіўнасць.

### Дзесьці на белым свеце

***Адыходзячы год ніяк нельга назваць удалым для прэзідэнта Клінтана і яго радні. Сам Біл «уліп» у сексуальны скандал, а цяпер у непрыемны «пераплёт» трапіў і яго зводны брат, рок-музыкант Роджэр.***

Праўда, з жаночым полам беды Роджэра ніяк не звязаны, ды і сам ён, па сутнасці, аказаўся без віны вінаватым. Падставіў Роджэра яго любімы сабака, лабрадор па мянушцы Беар. Ён без усялякай на тое прычыны накінуўся на ратвейлера, які мірна праходзіў міма, і добра паганяў яго. Ды не толькі яго — дасталося і гаспадару сабакі — садоўніку Джэфу Клепману, які паспрабаваў разняць сабак. Беар цапнуў і яго за руку. Пацярпелы падаў на Роджэра Клінтана ў суд, патрабуючы кампенсацыі ўрону ў памеры 25 тысяч долараў. Роджэр не адмаўляецца плаціць за выхадку свайго любімца, але на пакусанага Джэфа і яго адваката, тым не менш, у вялікай прэтэнзіі.

— Яны падалі ў суд толькі таму, што маё прозвішча Клінтан і ім патрэбен яшчэ адзін «працэс веку».

### Анекдот

*Заяц набыў на Новы год бутэльку гарэлкі, схаваў яе да свята пад ёлкай і паставіў таблічку: «Тут гарэлкі няма».*

*На наступны дзень прыходзіць, бутэлькі няма і стаіць іншая таблічка: «Вожык гарэлкі не браў».*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі, сакратарыята — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 7205.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12